ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 10 (157) 8 - 14 сакавіка 1996 г. Кошт свабодны

ЯК ПРАЕЛІ ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ГРОШЫ - ст. 3.

ШОЎ ПАД БЕЛАРУСКІМІ МАСКАМІ - ст. 4.

"МАРДАВАРОТЫ" КАРАТЭ НЕ ЗАЙМАЮЦЦА - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПА ВУЛІЦАХ ПАПЛЫВУЦЬ КРАКАДЗІЛЫ

**Паводка, якая чакаецца гэтай вясной, будзе адной з буйнейшых у гісторыі Горадні. Дагэтуль самая страшная паводка была зафіксавана ў 1853 годзе, калі вада ў Нёмане ўзьнялася на сем метраў.**

Вышыня сьнежнага пакрову дасягнула гэтай зімой 60 сантыметраў. На гэтакую ж глыбіню прамерзла вада на рэках і азёрах вобласьці. З надыходам цяпла каля сотні вёсак на тэрыторыі Гарадзеншчыны могуць быць з атопленымі. Асаблівa небясьпечная сітуацыя будзе ў прыбярэжных раёнах Нёмана, Віліі, Котры. Прагназуецца вялікі разьліў возера Юбілейнага пад Горадняй. Чарговы раз затоплены шкоднымі адыходамі вытворчасьці шклозавода «Нёман», напэўна, будзе Бярозаўка.



У Горадні самае небясьпечнае становішча склалася ў адзіным на Беларусі заапарку. Нават пры невялікім сьнезе штогод вясной Гараднічанка падтапляе клеткі і будынкі з жывёлай. Сёлета ж супрацоўнікі зьвярынца чакаюць вясну з жахам, бо на гэты раз заліта вадой будзе ўсё - і сланы, і нават тэрарыум са зьмеямі ды кракадзіламі.

Па словах загадчыка аддзела аблвыканкаму па барацьбе з надзвычайнымі становішчамі Станіслава Андрыеўскага, для барацьбы з паводкай створаныя 15 групаў узрыўнікоў, якія будуць ўзрываць лёд на рэках і водасховішчах. У Кабінет Міністраў краіны і Міністэрства па надзвычайных становішчах абласнымі ўладамі накіраваны ліст з просьбай вылучыць на ліквідацыю паводкі і яе наступстваў дзевяць з паловай мільярдаў рублёў, некалькіх соцен тон бензіна, дызельнага паліва, керасіну. Плануецца, што штодзённую выведку сітуацыі з паветра будуць весьці экіпажы трох верталётаў. Магчыма, у некаторых месцах прыдзецца эвакуіраваць людзей. Выпрабаваць нас на моц прырода зьбіраецца ўсур'ёз.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: Развалiны Каложы пасьля паводкі 1853 году. Ці не паўторыцца карціна?**

## НІХТО НІКОМУ НІЧОГА НЕ ПРАБАЧЫЎ!

На нарадзе па капітальнаму будаўніцтву, якая адбылася ў аблвыканкаме 1 сакавіка, намесьнік міністра па архітэктуры і будаўніцтву Тацьцяна Голубева паведаміла, што ўзаемнае пагашэньне Расеяй і Беларусьсю пазык у рамках разрэкламаванага «нулявога варыянту» беларускіх прадпрыемстваў фактычна не датычыць.

Спадарыня Голубева падкрэсьліла, што ўсе запазыкі прадпрыемстваў за энерганосьбіты рашэньнем Кабінету Міністраў застаюцца ў сіле, і толькі асобным прадпрыемствам будуць зробленыя некаторыя палёгкі. З вялікага звону, як заўсёды, выйшаў пшык.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ПАЗЫКІ ЗАВЯЛІ Ў ЛЫКІ

Пад пагрозай абмежаваньня спажываньня энерганосьбітаў апынулася вытворчае аб'яднаньне «Хімвалакно». З сьнежня мінулага году прадпрыемства не аплочвае спажываемы газ, запазыка за які дасягнула ўжо 22 мільярдаў рублёў.

Сваімі сіламі вылезьці з гэтага крызісу наўрад ці ўдасца - вытворчыя магутнасьці на прадпрыемстве загружаныя толькі на 52 працэнты, а спадзяваньні на скасаваньне запазыкі пасьля падпісаньня «нулявога варыянту» развеяліся, як дым.

**Рудольф ЛЮТЫ.**

## НА ЗАВОДЗЕ ВЫРАБЛЯЛАСЯ ЗБРОЯ

**Па заказах крымінальных структураў на ўнікальным сучасным абсталяваньні Гарадзенскага механічнага завода народныя ўмельцы прама на сваіх працоўных месцах займаюцца рэмонтам і вырабам баявой зброі.**

Пра гэта на паседжаньні Рады канцэрна Белхімнафтапрам якое адбылося 16 лютага ў Горадні, паведаміў яго прэзідэнт А.Мардашоў. Ён жа папярэдзіў дырэктара завода Вацлава Ачакоўскага, што рабочыя, даведзеныя да адчаю хранічнай адсутнасьцю працы і грошай, могуць і самі прымяніць зброю. У тым ліку і супраць тых, хто ня змог забясьпечыць іх працай. На гэты час вытворчыя магутнасьці на прадпрыемстве задзейнічаныя толькі напалову. На 50 працэнтаў, у параўнаньні з мінулым годам, зьменшыўся і аб'ём выпушчанай прадукцыі. У той час, як сярэдняя зарплата па канцэрну складае 1,2 мільёна (што на 44,7 працэнта вышэй сярэдняй па прамысловасьці), то на тэхнічным заводзе - толькі 618 тысячаў. Вось і прыходзіцца рабочым на ўласны страх і рызыку зарабляць сабе грошы «левымі заказамі».

**Вітаўт РУДНІК.**

## МЫТНІК, ЯК САПЁР - ПАМЫЛЯЕЦЦА АДЗІН РАЗ

Вынаходлівыя хлопцы з аддзела размытненьня легкавікоў некалькі месяцаў стрыглі «дывідэнды», афармляючы іншамаркі, што ўвозіліся мінулым часам (датамі да ўводу «драконаўскіх» падаткаў). Як вядома з Евангельля, Боглюбіць мытнікаў. Але, відаць, да пэўнай мяжы. У адзін цудоўны момант героі нашай гісторыі страцілі адчуваньне меры-перасьцярогі і «падарваліся». Па неафіцыйных дадзеных, аднаму з іх ужо зашчэплены кайданкі, другі - грамадзянін Ц. - знаходзіцца ва ўцёках.

**Марцін КАЛАМУТНЫ.**

## РЫГОРАВІЧ УВАЖЫЎ «ЖЭНШЧЫН» І РАБОЧЫХ

Напэўна, ня менш, чым жанчыны, чакаюць сёлетняе 8 Сакавіка і ўсе мужчыны - рабочыя краіны «запушчанай» эканомікі. Уласным распараджэньнем прэзідэнт А.Лукашэнка абавязаў кіраўнікоў усіх прадпрыемстваў выплаціць да Міжнароднага жаночага дня запазыку па зарплаце па стану на 15 лютага.

Да 2 сакавіка кіраўнікі прадпрыемстваў, якія ня маюць уласных сродкаў, каб разьлічыцца з рабочымі, павінны падаць заяўку ў абслугоўваючыя іх банкі з просьбай аб крэдытах. Пра гэта гаворыцца ў разасланым па прадпрыемствах краіны лісьце Кабінету Міністраў.

Гэтая тэрмінова падрыхтаваная, каб не дапусьціць выхаду людзей на вуліцы, акцыя носіць выразна папулісцкі характар. Заплаціўшы чужымі грашыма зарплату рабочым, прадпрыемствы праз месяц апынуцца ў яшчэ горшым стане, бо рабочыя зноў захочуць есьці, а банкіры запатрабуюць пазыку. Прычым з працэнтамі.

**В.АНІМУЦКІ.**

## ПЕСЬНЯ ПРА ЗАЙЦАЎ: «А НАМ...»

За мінулы год у Горадні за безбілетны праезд аштрафавана амаль 80 тысяч чалавек - у чатыры разы больш, чым у 1994 годзе. Штодзённа на лініі пасажырскіх маршрутаў выходзіць 10 штатных кантралёраў і брыгады пазаштатнікаў. Аднак больш купляць квіткоў ды праязных ня сталі: адным не хапае грошай, другім не шкада пасьля дзесяці паездак «на халяву» заплаціць мізэрны штраф, трэція папросту ведаюць, што кантралёр фактычна бясправны чалавек, якога можна паслаць куды-небудзь ды рушыць па сваіх справах. Пагрозы міліцыяй з боку кантралёраў - чысты блеф. За ўвесь мінулы год гарадзенская міліцыя ня склала на «зайцоў» ніводнага адміністрацыйнага пратаколу...

**В.Р.**

## БЕЗ СВАБОДЫ НЯМА РАЗЬВІЦЦЯ

**Прафесара Лешэка Бальцаровіча называюць айцом польскіх рэформаў. Напрыканцы 1980-х, калі Бальцаровіч займаў пост віцэ-прэм'ера і міністра фінансаў, у Польшчы пад яго кіраўніцтвам была зьдзейсьненая так званая шокавая тэрапія. Вынік польскіх рэформаў не змусіў чакаць - інфляцыя ў краіне была спынена, пачаўся эканамічны ўздым. Сёньня прафесар Бальцаровіч зьяўляецца адным з найболыш уплывовых палітыкаў апазіцыі, лідарам партыі «Unia Wolnosci» («Саюз Свабоды»), якая мае трэцюю па колькасьці фракцыю ў парламанце.**

*- Пан прафесар, у чым сутнасьць тых рэформаў, якія Вы праводзілі ў Польшчы? Што можна назваць сапраўднымі рэформамі?*

- Трэба рухацца хутка і шырокім фронтам. Неабходна вырашыць дзьве вялікія праблемы: праблему стабілізацыі (высокія тэмпы інфляцыі -гэта як пажар у хаце, і марудзіць тут нельга) і зьдзейсьніць перабудову эканамічнай сістэмы. Эканамічную сістэму можна параўнаць з рухавіком. У нас быў вельмі кепскі рухавік. Ён працаваў слабей і слабей. Сутнасьць сістэмы трансфармацыі - стварыць лепшы, больш эфектыўны рухавік. У Польшчы пасьля развучай стабілізацыі тэмпы росту дасягнулі 6-7% у год. І гэта пры тым, што мы атрымалі ў спадчыну вялізарныя пазыкі, амаль 40 мільярдаў долараў. Гэтыя пазыкі накопліваліся і мы не былі ў стане іх абслугоўваць. Крэдыты бралі нашы камуністычныя ўлады, а нам неабходна было расплочвацца. Такіх праблемаў не было, напрыклад, у былой Чэхаславакіі. Калі я стаў міністрам фінансаў, я доўга ламаў галаву: што рабіць з гэтымі пазыкамі? Дзякуючы радыкальнай праграме і намаганьням нашых палітыкаў, пазыкі ўдалося скараціць на 50%. А з заходніх дзяржаў нам удалося атрымаць стабілізацыйны фонд у 1 мільярд долараў. Ён неабходны быў для замацаваньня канвертуемасьці нашай валюты. Аднак стабілізацыю мы правялі настолькі пасьяхова, што нам не давялося выкарыстоўваць ніводнага долара з гэтага фонду. У 1990 годзе польскі экспарт на Захад узрос практычна на 40%, нашыя валютныя рэзервы ўзрасьлі на 100%.

**(Працяг на стар. 4)**

## ПЕРШАЯ ВЯРШЫНЯ СКОРАНА



**(«Нёман»-«Палімір» - 2:1; 3:1)**

**Заключаныя сустрэчы чэмпіянату Усходнеэўрапейскай хакейнай лігі выклікалі нежартоўны ажыятаж. За 5 хвілінаў да пачатку першага паядынку ля касаў стадыёна вілася даўжэзная чарга. Выходная дыспазіцыя клубаў была ідавочнай. «Нёману» для дасягненьня чэмпіёнства патрэбна было браць тры ачкі, навапалачане ў выпадку абедзьвюх перамогаў маглі ўзьняцца на другую прыступку.**

У дэбюце абарона гарадзенцаў нагадвала дзіравае рэшата. Атакавалі госьці, а гол забілі нёманцы. Паліцынскі ўзорным пасам «разрэзаў» абарончыя шэрагі «Паліміра», а Пстыга з Кузьняцовым хрэстаматыйна разыгралі выхад «два ў аднаго». Аднак, праз хвіліну Башура аднавіў раўнавагу - 1:1. У другім перыядзе гаспадары пляцоўкі выкарысталі ў колькаснай меншасьці - шайба на рахунку Малашкевіча. Лік 2:1 застаўся нязьменным, нягледзячы на тое, што самы зьмястоўны хакей дэманстравалі ў заключнай трэці. Ну а лепшым сярод гарадзенцаў у гэты дзень быў брамнік Зарудны.

Паўторнае спатканьне не магло нічога ўжо прынесьці навапалачанам. Фінальная сірэна зафіксавала перамогу тых, хто больш яе хацеў. 3:1 - і гарадзенскі «Нёман» першы чэмпіён УЭХЛ! 14 сакавіка гарадзенцы стартуюць у чэмпіянаце краіны.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## АДНА ТАБЛЕТКА НА ЧАТЫРОХ

Пра жахлівае становішча, у якім апынулася нашая медыцына ведае кожны, хто хоць раз пераступаў парог палікліні́кі, яшчэ горш, спазнаў шпітальную койку. Ня лепшыя справы і ў вайсковых медыкаў.

Як паведаміў на сустрэчы з ветэранамі начальнік медыцынскай службы гарадзенскага гарнізону сп.Меляшэвіч, атрыманых вайсковым шпіталем у Горадні медыкаментаў на 1996 год хопіць толькі на тры месяцы.

Нехітрая арыфметыка паказвае: каб мець чым лячыць да канца году, вайсковым лекарам прыйдзецца даваць па адной таблетцы на чатырох хворых.

**В.ДРЭМА.**



## ВОЛЬГА ІПАТАВА Ў ГОРАДНІ

Гісторыка-культурны клуб «Паходня», які ў сакавіку справіць сваё дзесяцігоддзе, зноў ладзіць спатканьні з вядомымі дзеячамі беларускай культуры. У мінулы чацьвер з паходняўцамі сустрэлася вядомая беларуская паэтка і пісьменніца Вольга Іпатава.

**В.Л.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ІМПЕРСКІ КОЗЫР

**Артыкул доктара палітычных навук Уладзіміра Разуваева расейскай «Общей газете», думаецца, адлюстроўвае думку большасьці расейцаў аб магчымым аб'яднанні Беларусі і Расеі.**

Доктар навук прызнае, што дарога, па якой ішлі Расея і Беларусь, прывяла да разьвілкі. Трэба рабіць выбар. На яго думку «Конфедерация — а именно такая форма объединения двух государств наиболее вероятна — чрезвычайно перспективна для России». І няважна, што гэта прывядзе нават да пагаршэньня жыцьцёвага ўзроўню расейскага народу. Затое якія выгоды адкрываюцца. У геапалітычным плане гэта азначае, што наша суседка аднаўляе для сябе геаграфічную блізкасць з Эўропай, канчатковае выключэньне магчымасьці нават тэарэтычнай «Балтыцка-чарнаморскай дугі», прынцыпова іншую геаграфічную канфігурацыю граніц з Польшчай і Прыбалтыкай. Разуваеў вельмі занепакоены, што эканамісты-рынечнікі пачнуць выступаць супраць такога аб'яднаньня, стануць даказваць, што Расея прайграе ад гэтага, а Беларусь выйграе. І яны, зазначае палітолаг, будуць мець рацыю. Але ўсё роўна трэба аб'ядноўвацца.

Разуваеў піша, што лібералы-дэмакраты будуць спасылацца і на рэпутацыю Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і на ўяўленьне кіраўніцтва Беларусі як антырэфарматарскага. «Действительно, — зазначае доктар навук, — белорусский президент обладает весьма специфическими представлениями о демократии, а некоторые его публичные высказывания откровенно шокируют». Тым ня менш, гэта ня можа быць перашкодай для аб'яднаньня.

Вось так. Хоць Гітлер, хоць Пал-Пот, хоць хунта, хоць лагеры — давайце спачатку аб'яднаемся, а потым будзем разьбірацца. Для Разуваева важна ня тое, што будзе адбывацца ў Беларусі і Расеі пасьля такога аб'яднаньня, а важна, як на гэта паглядзіць Захад, які стане ініцыіраваць прыем у НАТА былых сацыялістычных краін. Але і гэта праблема вырашальная.

Аўтар артыкула папярэджвае: «Следует иметь ввиду: утратив перспективу воссоединения, Беларусь неизбежно начнет все более жестко отстаивать свои национальные интересы. Которые не всегда совпадают с российскими». Таму трэба сьпяшацца, і выбар рабіць менавіта Маскве. «И в расчет брать вовсе не экономические интересы. Прежде всего — политическая коньюнктура. Белорусский фактор становится козырной картой в российской политической игре. В предвыборной гонке за пост главы государства преимущество получит тот, кто поддержит идею воссоединения». А таму давайце перахопліваць ініцыятыву ў камуністаў. «Сиденье Москвы на двух стульях, канстатуе Разуваеў у канцы артыкула, закончится в ближайшее время». Вывад — калі не далучыць Беларусь, то яе Расея згубіць канчаткова.

Вяршыня цынізму. Калі б гэта было надрукавана ў камуністычнай газеце, то зразумець можна было. Але піша газета з нармальнай пазіцыяй, выступае аўтар, які ня лічыць сябе камуністам ці дагматыкам. Гэта яшчэ раз пацьвярджае, што ў Расеі пануе імперская ідэалогія, і гэта краіна ня можа дараваць сабе, што згубіла Беларусь, Украіну ды іншыя былыя калоніі.

**Аляксей БУКА.**

## СКЛАД ГАРАДЗЕНСКАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

*Прачытаў у «ПАГОНІ», што ў Горадні адбыўся справаздачна-выбарны сход Народнага Фронту. Там было ўказана, што абрана новая Рада. Цікава, хто ўвайшоў у яе склад, што гэта за людзі? Напішыце, калі ласка.*

**В.Іваноўскі.**

**Выконваем просьбу нашага чытача.**

| | |
|---|---|
| 1.Кастусь Жынь | інжынер-энергетык |
| 2.Сяргей Мальчык | урач |
| 3.Аляксандр Міхальчык | інжынер-механік |
| 4. Славамір Рэмша | настаўнік |
| 5. Алёна Гайко | настаўнік |
| 6. Сьвятлана Кравец | урач |
| 7. Сяргей Навіцкі | настаўнік |
| 8. Валеры Задаля | журналіст |
| 9. Мікалай Хвашчынецкі | урач |
| 10. Аляксандр Цыхун | юрыст |
| 11.Сьвятлана Станкевіч | інжынер-заатэхнік |
| 12. Веслаў Біруля | эл.зваршчык |
| 13. Уладзімір Аўласенка | урач |
| 14. Рыгор Фарманян | тэхнік-электрык |
| 15. Алесь Жук | інжынер-будаўнік |
| 16. Расьціслаў Мулярчык | тэхнік-механік |
| 17. Рыгор Пятліцкі | інжынер-будаўнік |

## *ЖЫВОЕ ДРЭВА ГРАМАДЫ*

**На сумеснай канферэнцыі менскай гарадзкой і раённай філій Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада адзначыла 5 гадоў аднаўленьня сваёй дзейнасьці.**

«Гісторыя, сучаснасьць, перспектывы» - тэма асноўнага дакладу, з якім выступіў кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан.

Сацыял-дэмакратыя ў Беларусі мае гістарычныя карані. Аб сваёй сацыялістычнай арыентацыі заяўляла першая беларуская палітычная арганізацыя - фракцыя Партыі «Народная воля». Годам стварэньня БСДГ лічыцца 1903, калі арганізавалася Беларуская рэвалюцыйная Грамада. Пасьля зьмены назвы і падзелу ў 1918 г. узьнікла Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя. Заслугай беларускіх сацыялістаў зьяўляецца абвяшчэньне 9 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка 1918 году - яе незалежнасьці.

Жаданьне пачынальнікаў БСДГ бачыць у грамадстве «роўнае багацьце, а ня роўную беднасьць», знаходзіць разуменьне і прыхільнікаў у сёньняшнім жыцьці. На сучасным этапе партыя ставіць за мэту сацыяльную абарону людзей працы і нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне Беларусі.

2-3 сакавіка 1991 г. на ўстаноўчым зьезьдзе беларускія сацыял-дэмакраты аднавілі сваю палітычную арганізацыю, ідэаламі якой зьяўляюцца свабода, роўнасьць, салідарнасьць, дэмакратыя, прыярытэт права. Кіраўніком партыі стаў вядомы вучоны-гісторык Міхась Ткачоў. Ён цьвёрда павёў сваіх аднадумцаў па цяжкаму шляху станаўленьня Грамады.

У былым ВС Беларусі фракцыя сацыял-дэмакратаў працавала актыўна над прыняцьцем новых законапраектаў і мужна паводзіла сябе ў надзвычайных абставінах.

Партыя сацыял-дэмакратычнага Саюзу разам з беспартыйнымі стварыла фракцыю «Саюз працы» у цяперашнім ВС, роля якой павінна стаць уплывовай.

Аб патэнцыяле партыі і яе рэальных справах гаварыў на сустрэчы старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ Мікалай Статкевіч. Сярод галоўных задач ён назваў супрацоўніцтва з прафсаюзамі як у цэнтры, так і ў правінцыі.

Грамада выступае за дыялог з усімі дэмакратычнымі сіламі, з прыхільнікамі ідэй сацыял-дэмакратыі і будзе пашыраць сваю дзейнасьць у інтарэсах працоўных, абароны іх правоў.

**Вера НАВІЦКАЯ.**

## ЛІДЗКІЯ ФРОНТАЎЦЫ - ЗА АДСТАЎКУ ЛУКАШЭНКІ

**Трэцяга сакавіка ў Лідзе адбылася рэгіянальная канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». У ёй прынялі ўдзел дэлегацыі ад Ліды, Лідзкага, Мастоўскага, Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў, а таксама кіраўнікі лідзкіх арганізацый дэмакратычнай арыентацыі.**

Канферэнцыя прыняла ўхвалу, у якой абавязала ўсе арганізацыі Фронту прыняць актыўны ўдзел у сьвяткаваньні ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка. Яе ўдзельнікі запатрабавалі ад Сойму БНФ распачаць шырокамаштабную агульнадзяржаўную акцыю па збору подпісаў за адстаўку Лукашэнкі з пасады Прэзідэнта Беларусі.

З дакладам аб становішчы ў краіне выступіў сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.

**Станіслаў СУДНІК.**

## ГАРАДЗЕНСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА ЗГОДЫ

**4 сакавіка ў Горадні адбыўся сход абласнога Савету Партыі народнай згоды, на якім было заяўлена пра імкненьне ўтварыць Беларускую Сацыял-Дэмакратычную партыю.**

Па словах кіраўніка абласной філіі ПНЗ сп.Івана Крэня, у склад партыі ўвойдуць Партыя народнай згоды, Партыя Усебеларускага адзінства і згоды, Партыя працы і справядлівасьці і Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.

Мэта будучай партыі - вывесьці Беларусь на «зорны» шлях разьвіцьця, які гарантаваў бы народу спакой і дабрабыт. Удзел у сходзе прынялі прадстаўнікі розных палітычных плыняў Горадні.

**В.М.**

## БУДУЧЫНЯ ВАШЫХ ДЗЯЦЕЙ У НЕБЯСЬПЕЦЫ!

### ВАС ПАДМАНУЛІ

У час выбарчай кампаніі камуністычная прапаганда здолела ўвесьці ў вушы многіх з Вас думкі, што «БНФаўцы - гэта нацыяналісты, экстрэмісты і, нават, фашысты; што пры камуністах жыць было лепей».

А ці было на вашай памяці такое, каб пры ўладзе на Беларусі быў хто-небудзь іншы, акрамя камуністаў?!

Не! Апошнія 75 гадоў улада была толькі ў іх. Створаная імі таталітарная сістэма, неэфектыўная эканоміка і наш нібыта дастатак трымаліся на продажы за мяжу прыродных рэсурсаў, якія пачалі канчацца. З 70-х гадоў нашае жыцьцё ўвесь час пагаршаецца. А камуністы былі ва ўладзе на Беларусі і ў 70-я, і ў 80-я, і ў 90-я гады. Таму да нашых цяперашніх бедаў ніхто, акрамя іх, ня мае ніякага дачыненьня!

А за якія грахі прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту абзываюць «экстрэмістамі», «нацыяналістамі», «фашыстамі»?

Няўжо за тое, што дзякуючы Фронту, адбылося «адкрыцьцё» Курапатаў (1988 г.), што стала вядома праўда пра Чарнобыль (1989 г.)? А можа з-за таго, што Вашыя дзеці не ваююць цяпер у Чачні (закон ад 1991 г.)?

Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце было прапанавана 112 законапраектаў, прыняцьцё якіх значна павысіла б эфектыўнасьць эканомікі, абмежавала злачыннасьць, забясьпечыла справядлівую, сапраўды ўсенародную прыватызацыю. Ужо сёньня вынікам гэтага быў бы значна больш высокі ўзровень Вашага дабрабыту. Але прапанаваныя законапраекты камуністычная большасьць былога Вярхоўнага Савету адхіліла. Іх цікавілі толькі асабістыя льготы і як перапампаваць грошы з Вашых укладаў на пабудову сваіх катэджаў.

Таму ў 1992 годзе Беларускі Народны Фронт сабраў амаль паўмільёна подпісаў за рэферэндум аб пераабраньні камуністычнага Вярхоўнага Савету. Але рэферэндум быў забаронены, абяцаныя выбары новага Вярхоўнага Савету ў 1994 годзе не адбыліся. Затое вясной 1995 году быў дазволены антыканстытуцыйны рэферэндум, з-за чаго дэпутаты апазіцыі аб'явілі галадоўку пратэсту. Цяпер вы і самі бачыце, што лукашэнкаўскі рэферэндум нічога ня даў, акрамя паўгалоднага існаваньня для Вас і ганьбы для дзяржавы.

### ХТО І ЯК УВОДЗІЎ ВАС У ЗМАН

Яшчэ з савецкіх часоў на Беларусі засталася эфектыўная сістэма прапагандысцкага замбіраваньня людзей - праз дзяржаўныя газеты, радыё, тэлебачаньне і шляхам распаўсюджваньня чутак.

Распаўсюджваюць чуткі ў асноўным няштатныя супрацоўнікі існуючай улады (стукачы). Яны баяцца раскрыцьця таго, што данасілі на сваіх знаёмых, таму і зараз з імпэтам выконваюць усе заданьні. У 1992 годзе яны распускалі чуткі супраць рэферэндуму. Маўляў, «гэтыя ўжо накраліся, а прыдуць новыя - пачнуць зноў красьці».

Пад час прэзідэнцкіх выбараў у месцах скапленьня людзей (чэргі, транспарт) яны ж заўзята агітавалі за Лукашэнку. Памятаеце: «Толькі ён навядзе парадак: зьнішчыць мафію ды карупцыю, верне страчаныя ўклады, запусьціць заводы, пасадзіць злачынцаў ад улады»? Ну і што, вярнуў, запусьціў, пасадзіў?..

І перад апошнімі выбарамі распускалася чутка: «Людзі гавораць: трэба галасаваць за камуністаў, бо калі БНФ прыйдзе да ўлады, будзе вайна».

Акрамя таго, праз сродкі масавай інфармацыі паўтары гады ліўся бруд на БНФ па гебельсаўскаму прынцыпу: чым больш хлусьні, тым лепш - што-небудзь ды застанецца. Ня раз да справы паклёпу далучаўся і спадар прэзідэнт. Нават выкрыты судом (1995 г.), ён працягвае рабіць тое ж самае.

А чаго варты фільм-фальшыўка «Ненависть. Дети лжи»?

### НАВОШТА ВАС ПАДМАНВАЛІ

Гэта рабілася для таго, каб Вы зноў галасавалі за тых, хто сядзеў на Вашым карку ўсё жыцьцё - за прадстаўнікоў камуністычна-наменклатурнага начальства. У выніку, яны свайго дамагліся: у новым Вярхоўным Савеце Беларусі іх зноў большасьць. А вы - зноў у пройгрышы.

### ЧАМУ НАМЕНКЛАТУРНАЕ НАЧАЛЬСТВА БАІЦЦА МЕНАВІТА БНФ

У руках камуністаў-наменклатуршчыкаў, цэсна павязаных рознымі цёмнымі афёрамі ды сямейнымі сувязямі, і зараз застаецца рэальная ўлада на заводах, у банках, на зямлі, у гандлі. Калі хто-небудзь з іх паспрабуе стаць сумленным чалавекам, яму паказваюць яго «асабовую справу», пасьля чаго ён хутка супакойваецца. Большасьць «простых камуністаў» часта нават ня ведае, за каго на самой справе агітуе. Пры нармальнай уладзе многім з цяперашніх начальнікаў «сьвяціла» б турма і канфіскацыя маёмасьці.

Спадзявацца на нашага «усенароднаабранага» бессэнсоўна, таму што Лукашэнка дэманструе тыя ж норавы: безкантрольнае выкарыстаньне бюджэту Беларусі на ўласную карысьць ( махінацыі праз фірму «Торгэкспо», самалёт за мільёны долараў, асабістая ахова коштам 1000 $ штодзённа, сотні будынкаў у цэнтры Менску) і адначасова справы на сваіх падначаленых, каб у выпадку чаго іх можна было шантажаваць.

У біяграфіях жа лідараў Беларускага Народнага Фронту няма нічога, чым іх можна было б запалохаць. Іх яшчэ нікому не ўдалося падкупіць (хаця спробы былі). Толькі такія людзі здольны выцягнуць Беларусь з крызісу. А гэтага больш за ўсё і баіцца наменклатурнае начальства, бо яно ўсё страціць! Ім выгадны крызісны стан.

### ЧАГО ХОЧА БНФ

Што б вам ні казалі пра Беларускі Народны Фронт, памятайце - яго прадстаўнікі жадаюць толькі аднаго, каб усе жыхары Беларусі, незалежна ад нацыянальнасьці, жылі так, як жывуць людзі ў цывілізаваных краінах сьвету: годна, заможна, у міры і спакоі. Каб беларускі народ меў на Зямлі свой уласны куток, а вы і вашыя дзеці былі там гаспадарамі, а не парабкамі!

Дабрабыт народу залежыць не ад велічыні яго краіны ці багацьця нетраў, а ад працавітасьці і адукаванасьці грамадзян, ад узроўню іх культуры і павагі да саміх сябе (вазьміце прыклад Венгрыі, Славеніі). У гэтым плане беларусам пашанцавала. У нас таксама выдатнае геаграфічнае становішча. Не хапае толькі аднаго - разумнага і ахвярнага кіраўніцтва, якое б здолела забясьпечыць добрае жыцьцё для свайго народу! Ну, скажыце, пра які розум кіраўнікоў Беларусі можна казаць, калі ў жывёлагадоўчай краіне кілаграм мяса каштуе каля 3 долараў, а яго сярэдняя сусьветная цана - менш аднаго долара?

У Чэхіі, Эстоніі з 1990 году адбываюцца пераўтварэньні ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сьферы і культуры, найбольш падобныя да тых, якія прапаноўваў і прапануе Беларускі Народны Фронт. Ужо зараз жыцьцё там непараўнальна лепшае за нашае (заробкі большыя, а тавары таньнейшыя).

### БНФ ПАПЯРЭДЖВАЕ:

- калі застанецца камуністычная сістэма, якая ёсьць;
- калі пры ўладзе застануцца тыя, хто быў;
- калі наша маёмасьць апынецца ў руках так званых «новых»;
- калі Беларусь, не дай Бог, страціць дзяржаўнасьць, памятайце: вас і вашых дзяцей і далей чакае прыніжэньне, бядота і гора. Ваша жыцьцё будзе толькі пагаршацца. А выбрацца з багны будзе цяжэй.

Людзі, думайце! Ваш лёс у вашых руках!

**Гарадзенская Рада БНФ "Адраджэньне"**





# ЗЛАЧЫННАЕ НЕЖАДАНЬНЕ

**Апошнім часам маем шмат звону пра так званы «нулявы варыянт» адносін паміж расеяй і Беларусьсю. Самае дзіўнае, што ўладамі пры гэтым зусім нічога ня робіцца дзеля атрымання, на аснове міжнародных нормаў і Права, кампенсацый для выратаваньня беларускага народу ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.**

Урад дзяржавы Беларусь не мае маральнага і іншага права пазбаўляць жыхароў Беларусі права зьвярнуцца да міжнароднай супольнасьці за кампенсацыяй урону, нанесенага ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Дзесяцігадовы тэрмін іскавай даўнасьці скончаецца 26 красавіка 1996 году. Зьвярнуцца ў міжнародны суд у адпаведнасьці з існуючай працэдурай мае права толькі ўрад краіны.

Адмова ад выкарыстаньня права на выжываньне і захаваньне беларускага этнасу як нашых сучасьнікаў, так і будучых пакаленьняў пацягне адпаведную адказнасьць дзяржаўных асоб.

Ужо цяпер зьвесткі медыкаў трагічныя: працягласьць жыцьця жанчын скарацілася ў параўнаньні з 1985 годам на 5 гадоў. Здаровых дзяцей у Беларусі засталося толькі 10 працэнтаў, а ў найбольш забруджаных раёнах- 1-2 працэнты. Пад сур'ёзнай пагрозай генафонд нацыі: толькі за мінулы год колькасьць дзяцей з анамальным разьвіцьцём сярод памерлых ад аднаго году вырасла ў 3,1 раза ў параўнаньні з 1993 годам. З 1994 году пачалося выміраньне беларускага народу -колькасьць памерлых перавысіла колькасьць нарадзіўшыхся. Пры захаваньні цяперашняй тэндэнцыі праз стагоддзе тэрыторыя Беларусі стане бязьлюднай.

Эканамічны ўрон Беларусі ад Чарнобыля па разьліках Дзяржкамчарнобыля вызначаны ў 28-32 гадавых бюджэтаў Беларусі. Але гэта вельмі заніжаныя лічбы. Напрыклад, урон здароўю насельніцтва Беларусі ацэнены ў 2,4 мільярда долараў ЗША. На самой жа справе, па разьліках, якія праведзены па самых сьціплых крытэрыях заходніх навукоўцаў і сьпецыялістаў, урон перавышае тры трыльёны долараў.

Узьнікае пытаньне: як захаваць здароўе народу і зрабіць канкурэнтназдольнай народную гаспадарку ва ўмовах, калі гадавы эканамічны ўрон перавышае гадавы бюджэт Беларусі нават па разьліку Дзяржкамчарнобыля, а рэальна - у дзесяткі разоў?

Напрошваецца выснова: эканамічнае ярмо Чарнобыля непасільна Беларусі. Без кампенсацыі гэтага ўрону Беларусь будзе самай беднай, жабрацкай у Эўропе, народ - самы хворы. Абяцанкі сучаснага кіраўніцтва Беларусі вывесьці эканоміку з крызісу акажуцца ня выкананымі. Трагедыя беларускага народу будзе ўзрастаць.

У сітуацыі, якая склалася, адзіны рэальны шлях выратаваньня нацыі -гэта дамагацца, на аснове міжнароднага права, кампенсацыі эканамічнага і маральнага ўрону.

Дзяржкамчарнобыль і вышэйшая выканаўчая ўлада не выкарысталі гэты шлях выратаваньня свайго народу. Прэм'ер-міністр М.Чыгір афіцыйна заявіў, што Беларусь не зьбіраецца ініцыяваць у міжнародных судовых інстанцыях пытаньне кампенсацыі ўрону за наступствы чарнобыльскай катастрофы.

Шлях для кампенсацыі на аснове міжнародных прававых нормаў ёсьць. Дзяржкамчарнобыль і Мінюст уводзяць кіраўніцтва Беларусі і насельніцтва ў зман. Яны не прааналізавалі ўсе магчымыя варыянты самаабароны Беларусі.

На жаль, пісьмовыя звароты грамадзкіх арганізацый да Прэзідэнта, выступленьні ў друку, на радыё і тэлебачаньні застаюцца без адэкватнага рэагаваньня.

**Мікола САВІЦКІ,**
**Старшыня Беларускага аргкамітэту «Чарнобыль-86 - Гаага-96», прафесар.**

# СПЫНІЦЕ ДУРНЫЯ ГУЛЬНІ!

*Спадар Лукашэнка! Вы кантралюеце выдачу ліцэнзій на экспарт нафтапрадуктаў, драўніны, мінеральных угнаеньняў, чорных, каляровых і каштоўных металаў і іншых тавараў (указ N 191 ад 17.05.95 г.). Вы кантралюеце выдачу буйных крэдытаў (звыш 41 тыс. USD). Хто кантралюе Вас?*

*Вы забралі пад свой кантроль сотні лепшых будынкаў на тэрыторыі Беларусі і здаеце іх у арэнду (апошні такі ўказ N 9 ад 04.01.96 г.)*

*22 лістапада 1995 году Вы дазволілі без тарыфаў і падаткаў фірме «Торгэкспо» увезьці тавараў на суму 500 млн. долараў, што прывяло да бюджэтных страт прыкладна на 250 млн. долараў ЗША.*

*Вы аддалі большасьць акцый Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў расейскім прыватным кампаніям (студзень 1996 г.). За якія такія ласкі?*

*Вы ўтрымліваеце расейскія ваенныя базы на Беларусі, за што Расея нічога ня плаціць (можа што і плаціць, толькі не ў бюджэт).*

*Вы не бярэце плату за транзіт з Расеі нафты, газа, грузаў і пасажыраў па чыгунцы, аўтадарогах і паветры (можа што і плаціцца, толькі не ў бюджэт).*

*Вы пачалі манапалізацыю гандля алкаголем і тытунём, што прынясе Вам вялізныя даходы.*

*Вы стварылі цэлую армію (1800 чалавек) сваіх целаахоўнікаў, далі ім кватэры і вялікую зарплату.*

*Вы манапалізуеце банкаўскую сістэму і ўжо, напэўна, сталі міліярдэрам (доларавым).*

*Можна нагадаць Вам таксама розныя «дробязі»:*

*- самастрэл у Лёзне, сьцюардэсу;*

*- хлусьню, што Вы галасавалі супраць Белавежскіх пагадненьняў;*

*- утойваньне, што Вы працавалі намесьнікам начальніка турмы;*

*- хлусьню наконт «карупцыянераў» Шушкевіча, Захаранкі, Багданкевіча;*

*- напад на дэпутатаў Вярхоўнага Савету і г.д.*

*Вы ня выканалі ніводнага свайго перадвыбарчага абяцаньня:*

*- запусьціць заводы;*

*- пасадзіць карупцыянераў;*

*- кампенсаваць уклады;*

*- спыніць інфляцыю і іншыя.*

*Ад Вас пайшлі, ці Вы іх самі выгналі, сумленныя і кваліфікаваныя людзі, якія Вас прывялі да ўлады.*

*Вы парушылі Канстытуцыю і сваю клятву, калі ўвялі на Беларусі цэнзуру.*

*Вы блакавалі выбары ў Вярхоўны Савет.*

*Вы ганьбіце і пагражаеце Канстытуцыйнаму Суду.*

*Вы імкнецеся аддаць Беларусь пад уладу Масквы.*

*Ваша бязьдзеяньне і бязглуздасьць у эканоміцы відавочныя.*

*Вы не даеце людзям хоць нешта зарабіць у прыватным сектары эканомікі.*

*Вы душыце ўсіх падаткамі, паборамі і кантролямі.*

*Людзі за часы Вашага кіраваньня значна зьбяднелі.*

*Вы нават пахвалілі Гітлера і пагражаеце пакінуць ядзерную зброю на тэрыторыі Беларусі.*

*Вы пачалі дурныя гульні з сімволікай і мовай.*

*І ўсё гэта за паўтара года.*

*Вы НІЧОГА ДОБРАГА не зрабілі для людзей, якія Вас абралі. Сколькі яшчэ дурнот і злачынстваў Вы зробіце за астатнія 3,5 года?*

**Сяргей ДАМБРОЎСКІ, г.Менск.**

# ЯК ПРАЕЛІ ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ГРОШЫ

**У 1990 годзе Савет Міністраў СССР прыняў рашэньне пабудаваць у Гомелі сьпецыяльны дыспансер для лячэньня захварэўшых ад наступстваў чарнобыльскай аварыі. Беларускі ўрад падтрымаў і прадубліраваў рашэньне. Выдзялілі 300 тысяч тон нафты, сродкі ад экспарту якой павінны былі пайсьці на будоўлю. 250 тысяч тон нафты прадалі, атрымаўшы 28 мільёнаў долараў. Але...**

Савецкі Саюз распаўся. Валютны рахунак у Зьнешэканомбанку ў Маскве заблакавалі. Усе спробы вярнуць долары аказаліся марнымі. Больш таго, пра іх сёньня стараюцца не ўспамінаць. Справа ў тым, што згодна з дагаворамі, што заключаны у апошні час паміж Беларусьсю і Расеяй, наша суседка абавязалася нам нешта кампенсаваць. Доўга яшчэ пасьля гэтага бакі адзін аднаму штосьці гарантавалі. І не выконвалі. Але ў выніку чатыры мільярды рублёў усё ж паступілі ў Гомель.

Там іх канвертавалі ў 802,5 тысячы долараў. Але іх не хапіла нават выплаціць запазычанасьць швайцарскай фірме «Смэлт-інтаг», якая вяла будаўнічыя работы. Швайцарцы спынілі працу ў кастрычніку 1994 году і паехалі дамоў.

Аднак заставаліся, нагадаем, яшчэ 50 тысяч тон нафты, якія ў свой час не рэалізавалі. На гэты раз урад даручыў гэта зрабіць Гомельскаму аблвыканкаму. Той, у сваю чаргу, вырашыў чамусьці далучыць да гэтай справы асацыяцыю «Зьнешгомель». Асацыяцыя прадала нафту нямецкай фірме «Зотэкс», атрымаўшы больш шасьці мільёнаў долараў. Як аказалася, і яны да будаўнічай пляцоўкі не дайшлі.

800 тысяч долараў рашэньнем аблвыканкаму было выдзелена абласному аддзелу ахоўы здароўя для аплаты медыцынскага абсталяваньня, закупленага ў польскай фірмы. Мільён долараў распараджэньнем былога кіраўніка аблвыканкаму Мікалая Вайцянкова сьпісалі з рахунку асацыяцыі ў лік пагашэньня дэфіцыту бюджэту вобласьці.

Потым у той жа фірмы «Зотэкс» абласны цэнтр закупіў пяць аўтамабіляў «Пежо» для абласной ДАІ, два патрульных аўтобусы для абптрансупраўленьня і пяць «Фольксвагенаў» на агульную суму 500 тысяч долараў. Імкненьні кіраўнікоў вобласьці зразумелыя. Праўда, калі не ўлічваць, што грошы прадназначаліся зусім на іншыя мэты.

Між тым, як вядома, «апетит приходит во время еды». І вось ужо заключаны кантракт на пакупку мясной фабрыкі коштам 307 393 долары. Праўда, задаволіць гэты апетыт не ўдалося. Гаспадар фірмы памёр, сродкі фірмы перайшлі да іншага чалавека... І па-сеньняшні дзень у Гомель мясная фабрыка так і не паступіла. Вярнуць грошы з Германіі таксама немагчыма...

Заставалася яшчэ чатыры мільёны долараў. Аднак і іх пасьпяхова «праелі». Даходзіла нават да таго, што намесьнік старшыні аблвыканкаму С. Пракапенка пісаў ліст у банк, у якім патрабаваў не пералічваць валюту на рахунак сьпецдыспансера. Маўляў, няма адпаведнага рашэньня выканкаму.

Гэтай справай займалася Пракуратура, Кантрольная палата, Савет бясьпекі, Камітэт па барацьбе з карупцыяй. Усе абураліся. Але вінаватых не знайшлі. Паслом у Чэхію паехаў працаваць М.Вайцянкоў. Знайшлі новыя, прэстыжныя пасады іншыя ўдзельнікі гэтага разбазараваньня...

Між тым, і ў 1994 годзе Васіль Казакоў, а потым і новы міністр Інэса Драбышэўская пісалі кіраўнікам краіны лісты, у якіх абгрунтоўвалі неабходнасьць будаўніцтва сьпецдыспансеру. Драбышэўская прама пісала аб росьце захворваньняў, выкліканых уплывам радыяцыі. Яна ўказвала, што такія дыспансеры будуюцца ці пабудаваны ужо ў Расеі і на Украіне. Сьпецдыспансер павінен стаць ня толькі месцам для лячэньня хворых, але і цэнтрам правядзеньня медыцынскіх навуковых дасьледаваньняў. Сюды меркавалася запрашаць вядучых вучоных сьвету.

У адказ на адзін з гэтых лістоў Аляксандр Лукашэнка даручыў разабрацца Міхаілу Мясьніковічу, які займаў тады пасаду віцэ-прэм'ера. А той узяў ды наклаў рэзалюцыю: «У меня очень большие сомнения в целесообразности данного строительства, тем более за счет валюты и бюджетных средств». На гэтым усё і скончылася.

...Так і стаяць сіратліва ў Гомелі пабудаваныя дзьве дзесяціпавярховыя і адна пяціпавярховая «каробкі». Прадпрымальныя грамадзяне, калі ім трэба цэгла, іншы раз заглядаюць туды, «пазычаюць»...

Словам, гісторыя старая. Спачатку разбазарваем, крадзем. А потым бядуем, што мы такія бедныя, ходзім з працягнутай рукой, просячы ўвесь сьвет падаць міласьціну, каб адправіць людзей на лячэньне за мяжу, каб не памерці ад радыяцыі. Але хіба пасьля гэтай гомельскай гісторыі будуць верыць, што нам патрэбны сродкі для ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі?

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**

## «МАРТАЎСКАЕ» - ПІВА З ЛІДЫ

Чацьвёртага сакавіка ў Менску адбылася презентацыя першага гатунку цёмнага піва, выробленага на лідзкім піўзаводзе. Пад такой назвай піва выпускалася ў Лідзе дваццаць гадоў таму. Зараз на заводзе знайшліся грошы, каб закупіць у Чэхіі карамельны солад і аднавіць вытворчасьць.

## НА ЗЛОСЦЬ ЛУКАШЭНКУ ФЕРМЕРЫ ЖЫВУЦЬ

Трыццаць сем фермерскіх гаспадарак дзейнічае сёньня ў Ашмянскім раёне. Агульная іх плошча - 829 гектараў зямлі. Гаспадаркі маюць усе разам 67 галоў буйной рагатай жывёлы, 119 сьвіней, 9 коней, 43 трактары і 12 грузавых аўтамабіляў.

Летась сярэдняя ўраджайнасць збожжа на прыватных палетках склала 19 цэнтнераў з гектара, бульбы - 119 цэнтнераў.

**Ігнат ХІТРОВІЧ**

## ВОСЬ ТАБЕ І ІНТЭГРАЦЫЯ

**Дэкларуючы імкненьне да эканамічнай інтэграцыі з Расеяй, беларускі ўрад на практыцы робіць усё наадварот. Каля 50% контрактаў на пастаўку сваёй прадукцыі ў Расею вымушаны быў разарваць за апошні месяц камбінат будаўнічых матэрыялаў.**

Пра гэта на нарадзе па капітальнаму будаўніцтву ў аблвыканкаме паведаміў дырэктар КБМ сп.Лучына. Разрыў кантрактаў выклікала рашэньне беларускай чыгункі зьнізіць скідку за перавоз будаўнічых матэрыялаў з 50 да 30 працэнтаў. У выніку, кошт кожнай тысячы цэглы, накіроўваемай у Расею, узрос на 105 тысячаў рублёў. Дзіўнымі, па меншай меры, выглядаюць і ўстаноўленыя чыгункай тарыфы на перавозку. Так адпраўка вагона да Оршы, калі груз ідзе ў Беларусь, каштуе 1 мільён трыста тысячаў. Калі ж далей, у Расею - 8 мільёнаў семсот тысячаў. Пасьля прыведзеных вышэй лічбаў, гаварыць пра нейкую канкурэнтназдольнасьць беларускай прадукцыі ў Расеі, на думку сп.Лучыны, проста сьмешна.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## ПРЫЕХАЛІ?

Аўтобусны парк Горадні безнадзейна тэхнічна і маральна састарэў. Каля 80 са 123 аўтобусаў, якія задзейнічаны на пасажырскіх перавозках, патрабуюць замены. За мінулы год аўтапарк змог набыць толькі 7 аўтобусаў. З іх новых толькі тры. Нават для таго, каб купіць патрымананы «Ікарус», які каштуе ў Нямеччыне ня так і дорага - каля 250 мільёнаў рублёў на нашы грошы, - сродкаў няма. Калі сітуацыя ня зьменіцца, кожная паездка ў гарадзкім транспарце ў хуткім часе будзе рызыкоўнай для жыцьця.

**В.Р.**

## СЯМ'Я - СЯМ'І

241 гарадзенская сям'я будзе ў гэтым годзе атрымліваць дапамогу ад «Самарытанскага руху Марыі - Еднасьць» у праграме «Сям'я - сям'і».

Сьпіс гэтых сем'яў быў зацьверджаны 21 лютага на пасяджаньні гарвыканкаму. Ня выключана, што ў хуткім часе такую ж дапамогу найбольш сацыяльна неабароненым сем'ям Гарадзеншчыны будзе аказваць беластоцкі «Карытас».

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ПЕВЕНЬ І ЛЕНІН

Першага сакавіка лідзкая птушкафабрыка аб'ядналася з саўгасам імя Леніна. Развлік просты - саўгас будзе рыхтаваць корм, а фабрыка - прадаваць мяса.

**С.РУБАЛЬСКІ**

## ЛУКАШЭНКА ЗАГАДАЎ ПАЛІЧЫЦЬ НАРОД

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб правядзеньні ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Перапіс будзе праводзіцца па стану на лютыі 1999 году з 16 па 23 гэтага месяца сьпецыяльна падрыхтаваным персаналам. Між іншым, вузкакозія японцы карыстаюцца для гэтай мэты кампутарамі.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**





## СУМЕЖЖА

# БЕЗ СВАБОДЫ НЯМА РАЗЬВІЦЦЯ

(Працяг. Пачатак на стар.1)

**- Ні ў Беларусі, ні на Украіне не ўдалося ўвесьці сваю валюту. Ці дапамагла бы свая нацыянальная валюта гэтым краінам у правядзеньні рэформаў?**

- Само ўвядзеньне нацыянальнай валюты не зьяўляецца дастатковым для стабілізацыі. У Аргентыне кожныя 2 гады ўводзілі новую валюту. Аднак інфляцыя ад гэтага ня зьнікла. Увядзеньне новай валюты павінна быць элементам стабілізацыі. Самае галоўнае, каб тэмп росту грашовай масы рэзка скараціўся. Тэмп росту залежыць, папершае, ад дэфіцыту бюджэту. Калі ён вялікі, дыктады дэфіцыт пакрываецца інфляцыйным шляхам. Па-другое, ад дзейнасьці цэнтральнага банку. Калі цэнтральны банк налева і направа раздае крэдыты розным галінам народнай гаспадаркі, то такім чынам ён друкуе пустыя грошы і стварае інфляцыю. Гэтыя праблемы неабходна пераадольваць у межах стабілізацыйнай праграмы. Калі такая праграма распрацавана і ўводзіцца, то можна ўвесьці новую валюту. Калі такой праграмы няма, то будзе так, як у Аргентыне. У рэшце рэшт Аргентыне пашчасьціла, яна ўвяла новую валюту, але ўвяла яе ў межах рашучай стабілізацыі, і інфляцыя была ліквідавана.

***- Чаму правядзеньню эканамічнай рэформы спрыяе зьбядненьне шырокіх масаў? Жахамі шокавай тэрапіі асабліва любяць пужаць у нас у Беларусі.***

- Калі мы разгледзім досьвед постсацыялістычных краін, дык заўважым, што ва ўсіх гэтых краінах назіралася падзеньне эканамічнай дзейнасьці, незалежна ад таго, ішла ў іх рэформа, ці не. Чым гэта выклікана? Гэта падзеньне можна назваць цаной свабоды. Яна была вельмі вялікай у малых краінах былога Савецкага Саюзу - у Прыбалтыцы, Кіргізіі, Малдове. Падзеньне тут сягала 40 працэнтаў. Яно атрымлівалася не з-за рэформаў, а з-за развалу неэфектыўных эканамічных сувязяў. Краіны, у якіх своечасова ўзяліся праводзіць рэформы, дамагліся меншага падзеньня і нават выправілі сітуацыю.

**- Чым жа тады тлумачыцца «левы рэванш», які ахапіў эўрапейскую постсацыялістычную прастору?**

- У левых сіл, відаць, больш рэсурсаў. Нават, грошай. У іх арганізацыя, сувязі. Акрамя таго, лягчэй быць папулярным з дапамогай папуліцкіх лозунгаў. У людзей быццам скралі іх звыклы сьвет. А новага яны баяцца.

Часта людзі выступаюць супраць рэфарматараў нават у тых краінах, у якіх не было ніякіх рэформаў.

**- Як Вы думаеце, ці магчымы на руінах СССР новы Саюз, хаця б з Расеі і Беларусі?**

- Я ня ў стане адказаць на гэта пытаньне. Яго трэба адрасаваць жыхарам вашай краіны. Магу толькі сказаць, што ніякі новы саюз ня будзе ў стане вырашаць праблемы Беларусі. Беларусь у рэформах адстала нават ад Расеі. У Расеі ня ўсё атрымліваецца з рэформамі, а ў вас яшчэ горш. Беларусь можа стаць адсталай заходняй правінцыяй Імперыі. А усім нядаўна яна была перадавой рэспублікай Саюзу. Чаму адбылося такое пераўтварэньне? Няма рэформаў.

**- У чым памылкі правых сіл у постсацыялістычных краінах? Напрыклад, у Польшчы?**

- Памылкай было ісьці на выбары ў парламант у 1993 годзе раздробленa. Левыя сілы, сацыял-дэмакраты, атрымалі 21% галасоў, але ў парламанцы атрымалі 35% месцаў. Правыя таксама атрымалі 21% галасоў, але нуль месцаў у парламанце - ні адна з партыяў не пераадолела 5-працэнтны парог. Правыя палітыкі часта безпадставна крытыкавалі ход рэформаў у краіне і настроілі людзей супраць рэфарматараў. І гэта, вядома было на руку левым.

**- У наступным годзе ў Польшчы адбудуцца чарговыя выбары ў парламант. Ці рыхтуецца «Unia Wolnosci» да наступнай выбарчай кампаніі?**

- Так. Вядуцца перамовы. Нядаўна мы падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве з трыма найвялікшымі польскімі партыямі - кансерватыўнай, хрысьціянскай і рэспубліканскай. Гэта стане першым крокам да аб'яднаньня польскіх рэфарматараў.

**- Чым Ваша партыя адрозьніваецца ад іншых? Якія лозунгі напісаныя на вашых штандарах?**

- Мы за вольную эканоміку, таму што ведаем, што без свабоды няма разьвіцця. Нядаўна я напісаў кнігу, якая так і называецца «Свабода і разьвіцьцё». Мы за мясцовае самакіраваньне, за глыбокую дэцэнтралізацыю. Мы таксама вялікую ўвагу надаем рэформе адукацыі, а таксама рэформе дзяржавы. Яна павінна быць кампетэнтнай і сумленнай. Падкрэсьліваю - сумленнай.

**- Апошнім часам у Польшчы часта пішуць пра «руку Масквы». Шмат плётак ходзіць вакол справы былога прэм'ерміністра Юзэфа Алексы.**

- Калі мы да канца правядзем свае рэформы, дык станем яшчэ больш самастойнымі. Без рэформаў дзяржава слабее і расьце яе залежнасьць. Па справе Алексы магу толькі сказаць, што ў яго былі сяброўскія, асабістыя зносіны з дзьвюма асобамі, якія аказаліся афіцэрамі КДБ. Гэтая справа павінна быць разгледжана ў межах польскага заканадаўства і каментаваць яе вельмі складана.

**- Як Вы ацэньваеце ход рэформаў у Польшчы сёньня?**

- Рэформы яшчэ не завершаны. Вельмі важна іх давесьці да канца. Яшчэ шмат праблемаў з прыватызацыяй, лакальным самакіраваньнем. Але ў нас ужо ёсьць вынікі, плён. Нам лягчэй.

**Гутарыў Алесь КОЗІК.**

## СЯРЭДНЯЯ АЗІЯ АСВОЙВАЕ БЕЛАРУСЬ

З мэтай наладжваньня сувязяў паміж прадпрыемствамі Кыргызстана і Беларусі днямі Горадню наведаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол гэтай сярэднеазіяцкай краіны Барубек Ашыраў. Пад час візіту пасол пабываў на прадзільна-ніткавым аб'яднаньні, тытунёвай фабрыцы ды на «Хімвалакне».

**Г.ГЕРАСІМОВІЧ.**

## ШТО ЧАКАЦЬ АД УКРАІНЫ?

**Пытаньне аб далучэньні Украіны да Міжпарламанцкай Асамблеі краін СНД будзе разглядацца пасьля прыняцьця бюджэта дзяржавы на 1996 год у другім чытаньні.**

Рашэньне аб гэтым на сваім паседжаньні 4-га сакавіка прыняў прэзідыум Вярхоўнага Савета Украіны. Пытаньне аб далучэньні Украіны да Асамблеі на павестку дня пленарных паседжаньняў ставілася неаднаразова. Аднак супраць яго разгляду рашуча выступаюць фракцыі «правай» і «права-цэнтрысцкай» арыентацыі у парламанце (у прыватнасьці, фракцый Народнага Руху і «Дзяржаўнасьці»). На думку дэпутатаў «правай» арыентацыі далучэньне да Асамблеі пагражае украінскай дзяржаўнасьці. Дэпутаты «левых» фракцый лічаць, насупраць, што ўдзел Украіны ў Міжпарламанцкай Асаблеі СНД дапаможа ёй адстойваць свае правы ва ўзаемаадносінах з Расеяй.

**Э.-Х.**

# ЯК ТРАЦЯЦЦА ДЗЯРЖАЎНЫЯ ГРОШЫ Ў САНАТОРЫІ «БЕЛАРУСЬ» У ДРУСКЕНІКАХ

**Дзякуючы "ўмеламу" кіраўніцтву, санаторый, а значыць і дзяржава Беларусь, страціў 105 тысяч долараў, якія былі пакладзены на рахунак у камерцыйны інавацыйны банк Летувы літаральна за пару тыдняў да яго краху, хоць аб ненадзейнасьці банку пісала ўся літоўская прэса.**

У выніку краху банкаў у адстаўку пайшоў урад Летувы, а спадары начальнікі вышэйзгаданага санаторыя (галоўны ўрач, яго намесьнікі, галоўны бухгалтар) атрымалі персанальныя падвышаныя аклады.

Ніхто ў санаторыі не падаў голасу ў абарону інтарэсаў Беларусі, у тым ліку адзіны грамадзянін нашай рэспублікі ў адміністрацыі І.Казлоўскі. Толькі старшыня прафкаму, усяго толькі слабая жанчына, сабрала сход, каб паслухаць начальства з мэтай высьвятліць, куды ж зьнікаюць грошы санаторыя. Там і была названа страчаная сума. Высьвятлілася, што галоўны ўрач мае права карыстацца паслугамі любога банку. Вось толькі не сказаў ён, ці нясе ён адказнасьць за гэта. А адказнасьці ніякай ён і не нясе.

Цікава праводзіцца і падрыхтоўка кадраў у санаторыі, большасьць супрацоўнікаў якога зьяўляюцца грамадзянамі Летувы. У канцы мінулага году быў праведзены выязны цыкл па педыятрыі для лекараў санаторыя выкладчыкамі Менскага інстытуту ўдасканаленьня ўрачоў, якіх прывозілі і адвозілі ў Менск. Колькі гэта каштавала - ніхто не ведае. А з новага 1996 году лекараў сталі накіроўваць у Менск на курсы падвышэньня кваліфікацыі аднаго за адным. За кожны дзень курсаў плацяць 10 долараў, захоўваецца таксама і сярэдні заробак, аплочваецца дарога. Ужо нават чарга з жадаючых паехаць выстраілася. Такія грошы, якія плацяць за 2 месяцы курсаў, доктар у Беларусі не атрымае і за год. Скора пачнуць адпраўляць на курсы і медсясьцёр. Трэба памятаць, што ў санаторыі ў асноўным працуюць грамадзяне Летувы. Атрымліваецца, што Беларусь за свае грошы рыхтуе кадры для суседняй рэспублікі?

Адміністрацыя санаторыя зьбіраецца адкрываць зубапратэзны кабінет. Ды толькі каму ставіць зубы: дзецям нельга, а дарослых адлачвае ня больш за 50 чалавек. Але кабінет гэты адкрываецца пад канкрэтную асобу - дачку галоўнага ўрача. Ёсьць інтарэс, ці ня праўда?

Адметнай падзеяй у жыцьці санаторыя быў канцэрт ансамбля «Гараднiца», які адбыўся 17 лютага гэтага году. Зноў гучала беларуская песьня ў зале, што вельмі рэдка тут. І гледачы, і артысты засталіся задаволенымі. Канцэрт адбыўся дзякуючы намаганьням філіі ТБК у Летуве, што існуе пры санаторыі. Хоць здаецца санаторый, які носіць назву «Беларусь», сам павінен быць асяродкам беларускай культуры ў горадзе Друскенікі.

**Юзаф СЬНЯДЭЦКІ.**

# ШОЎ ПАД БЕЛАРУСКІМІ МАСКАМІ

**Праграма нядаўняга візіту А.Лукашэнкі ў Маскву ўключала ў сябе і сустрэчу з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Маскве. Аднак удзел у спатканьні змаглі прыняць толькі абраныя. Пра гэта ў сваім лісьце ў «ПАГОНЮ» паведамілі беларусы з Масквы і Падмаскоўя.**

*«...Як паведаміў нам адзін з супрацоўнікаў беларускае амбасады, Лукашэнка плануе сустрэчу з «прадстаўнікамі беларускае дыяспары Масквы». Аказваецца, гэта будуць розныя былыя дэпутаты розных парламантаў, розныя бізнэсоўцы, якія з цяжкасьцю складуць некалькі словаў па-беларуску. А прадстаўнікоў маскоўскага таварыства беларускае культуры нават і ня ўспомнілі. Ды мы іншага і ня чакалі пасьля таго, як нас выперлі з амбасады. А ў пакойчыку, які быў аддадзены для прарасейскага аддзяленьня «Бацькаўшчыны», сядзіць старшыня гэтага нешматлікага аб'яднаньня таварыш Аляксандр Глод, былы супрацоўнік сьледчворганаў. І зараз, замест якой-небудзь беларускай дзейнасьці, у гэтым пакойчыку квітнее гандаль ці то нафтай, ці лесам, ці ўвогуле чымсьці іншым (чаму не Радзімай)?*

*Вось і ня так даўно ў Маскве адбыліся чарговыя «Улашчыкавыя чытаньні». Арганізатары раструбілі, што прыедзе шмат вядомых беларускіх Літаратурных дзеячаў: і Мальдзіс, і Быкаў, і Ермаловіч. На самой справе ў пустой зале літаратурнага інстытуту сабралася невялікая кампанія. А з Беларусі прысутнічала толькі адзін малады бібліёграф з Віцебску - І.Хмяльніцкая. Вельмі сумна было чуць на беларускай вечарыне практычна толькі расейскую гаворку. Нехта ў зале кінуў рэпліку: «Не разумею, ці гэта чытаньні, ці паседжаньне філіі Лубянкі?» Але гэта яшчэ быў толькі пачатак. На самой справе ў той самы дзень пазьней у Доме літаратара праходзіла культурная праграма. У Маскву прыехаў вельмі таленавіты і перспектыўны тэатр «Вольная сцэна». Але... Аказваецца, запрашалі на гэтую імпрэзу, як на канспіратыўную сходку: толькі надзейных людзей, якія не запэцкаліся ў сувязях з БНФ ці яшчэ з якой прабеларускай партыяй ці рухам. Арганізатары добра памятаюць, як прыязджалі да нас Купалаўцы і які шквал падзякі яны атрымалі ад тутэйшых беларусаў. Гэта было сапраўды сьвята. Я сам да гэтага часу маю вялікую надзею пачуць яшчэ раз словы беларускае песьні на мелодыю паланэза Агінскага -вядомага нашага суайчыньніка, які сапраўды належыць і да беларускае і да польскае культуры. Гэтая песьня з «Сялянкі» па Дуніну-Марцінкевічу ня дае супакою.*

*Дык вось, страшна не хацелі тыя арганізатары «чужых» людзей. Вельмі цікавай была іх матывацыя: «а то прыйдуць зноў гэтыя нацыяналісты са сваімі бел-чырвона-белымі сьцягамі!» На жаль забыліся запрасіць беларусаў на гэты сьпектакль. І сядзелі ў зале трыццаць сонных расейскіх пэнсіянераў. А шкада. Хацелася б таксама, каб артысты даведаліся, што ня па сваёй волі не прыйшлі беларусы на іхні выступ і перадаць сваі шкадаваньні. Для нас кожная сустрэча з беларускімі артыстамі - гэта сьвята. За выключэньнем, канешне, прыдворных банкетных скамарохаў.*

*Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя перашкоды, сапраўдныя беларусы ў Маскве жывуць вельмі цікавым жыцьцём. Пастаянныя сустрэчы, супольныя сьвяткаваньні, выданьне бюлетэня «Шляхам Скарыны» - усё гэта не дае нам сумаваць і аб'ядноўвае ўсіх. І няхай клацаюць зубамі забойцы Беларусі: хаця яны маюць уладу, мы толькі загартоўваемся і нічым ня вынішчыць з нашых сэрцаў дух вольнае Беларусі, дух Касьцюшкі, Каліноўскага, Генюш і іншых. У нашых дзецях прадоўжыцца беларускі род і пакуль мы жывыя, жыве Беларусь!"*

**Аляксей Бука,**
**намесьнік старшыні**
**Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Ф.Скарыны.**

# КАЛІНІНГРАД - ГОРАДНЯ. ДАРОГА ВЯЛІКАЙ ПАЛІТЫКІ

**15 сакавіка адбудзецца першы за апошнія восем гадоў афіцыйны візіт кіраўніка зьнешнепалітычнага ведамства Расеі ў Польшчу. Адным з пытаньняў, якія Яўген Прымакоў спадзяецца вырашыць ў Варшаве, будзе будаўніцтва транспартнага калідору ад Калінінграда да Горадні праз Польшчу.**

Аб планах пабудовы гэтай дарогі было заяўлена пад час расейска-беларускіх перамоваў. Польскі бок адразу ж заявіў, што з Польшчай ніхто гэтае пытаньне не ўзгадняў і што палякі не зьбіраюцца праклaдваць дарогу ў самых экалагічна чыстых раёнах краіны дзеля нечых сумнеўных інтарэсаў.

Сваё шчырае зьдзіўленьне з нагоды праекту гэтага транспартнага калідору выказаў і прэзідэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас. На яго думку, з моманту падпісаньня ў лістападзе 1994 году летувіска-расейскай дамовы аб транзіце расейскіх грузаў і пасажыраў з Калінінграда праз Летуву ніводзін расейскі транспарт ці пасажыр ня меў праблемаў перасякаючы тэрыторыю прыбалтыйскай краіны нон-стопам. Чым жа не задавальняе Расею сёньня транзіт праз Летуву?

У першую чаргу тым, што воляй-няволяй расейцам, перасякаючы тэрыторыю незалежнай дзяржавы даводзіцца плаціць падаткі, з чым ганарлівыя вялікаросы ну ніяк ня могуць зьмірыцца. Тым больш, калі суседняя Беларусь прапануе свае паслугі задарма.

Зыходзячы з усяго вышэй сказанага можна зрабіць высновy, што ельцынска-лукашэнкаўскі праект - ні што іншае, як спроба ўмяшальніцтва ў справы Польшчы і Летувы. Дык хто ў такім выпадку нагнятае напружаньне ў рэгіёне?

**В.АНІМУЦКІ.**





(Працяг. Пачатак у № 9)

# АТАМАН ІВАН ПЕРАГУД

## УСПАМІНЫ І ДАКУМАНТЫ БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТАМАНА

### 3. СЬЦЯПАН ГУГЕЛЬ (НЕКРАЛОГ)

У Бразіліі памёр Сьцяпан Гугель. Паходзіў з Віленшчыны. Перад вайной 1939 году быў заробкавым эмігрантам у Францыі, пасьля паступіў у Берлінскі Унівэрсітэт, дзе навязаў сувязі з Нямецкімі ваеннымі коламі (быў павязаны з групай кс.Гадлеўскага). Пару дзён перад пачаткам вайны Гітлера з Польшчай быў скінуты з самалёту на Палесьсе каля Кобрына, дзе меў заданьне навязаць лучнасьць з мясцовымі Беларускімі антыпольскімі групамі і ў далейшым дапамагаць ім праз скідку зброі з нямецкіх самалётаў, сабатаж.

На трэці дзень вайны ён ужо здолеў, як сам прызнаваўся, уцісьнуцца да Беларускага паўстанцкага аддзелу, зложанага з Беларускай моладзі, якая ўцякла ў лес ад рэкрутчыны да Польскага войска, пад камандаваньнем Тарасюка. Невядома ці ён залатвіў справу скіда нямецкай зброі, але, як сьцьвярджаў, штодзённа перадаваў па сваёй рацыі радыёвесткі да Абвэры. Пры захопе Палесься Саветамі ўцёк за Буг і быў далучаны да беларускага асяродку ў Бела-Падляскай, дзе шыкаваліся Беларускія дывэрсійныя аддзелы на выпадак вайны з Саветамі. Падчас вайны разам з В.Вiрком, Вежанам і іншымі быў накіраваны для тварэньня Беларускай вайсковай адзінкі ў Аўстрыі, якая мела выступіць на нямецкім баку супраць Арміі Андэрса, каб пераманіць на свой бок Беларусаў з Андэрсаўскай «Крэсовай» дывізіі. Пасьля бунту ў арганізаваным аддзеле і ліквідацыі Беларускай адзінкі да упадку Нямеччыны, апынуўся ў Бразіліі.

### 4. ПАРТЫЗАНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ «ЗЯЛЁНАГА ДУБА»

У сваім працягу фальшаваньня гісторыі аб Беларускай партызанцы Ільля Ражкоў у N 8, 1975 г. «Полымя» у нарысе аб чэкісьце Арлоўскім зьмяшчае новую фантазію аб тым, што, маўляў, палякі, каб зьліквідаваць камуністычную партызанку Арлоўскага на Заходняй Беларусі, зарганізавалі пры дапамозе ген.Балаховіча антыпартызанскія атрады для барацьбы з партызанкай, што зьяўляецца звычайнай маной і перадзёргваньнем фактаў.

Вось жа існавала ў тыя часы (22-25 г.) на Заходняй Беларусі камуністычная партызанка, кіраваная ГПУ з-за мяжы, на чале з чэкістам Арлоўскім, які патрапіў захапіць атамана Муху і дзеяць ад яго імя, і другі чэкіст Вапшаўсаў, ды іх памочнікі: Рабцэвіч і пару іншых. Нашая Беларуская нацыянальная партызанка, кіраваная Урадам БНР з Коўна на Літве, а пасьля зусім самастойнай і партызанка «Зялёных», якая дзеяла на Усходняй Беларусі супраць камуністаў.

Адной з груп партызанкі «Зялёных» была арганізацыя «Зялёнага дуба» пад галаварствам атамана Дзяргача. Розьнілася яна ад іншых мясцовых зялёных атрадаў і тым, што мела шырэйшую арганізацыю і шмат збройных аддзелаў, якія пасьля нападаў адыходзілі ад пагоні ў Зах.Беларусь праз польскую мяжу, спачатку тайком, а пасьля ў паразуменьні з Польскай уладай, якая пагадзілася прапускаць антысавецкіх партызанаў і нават прыдзяляць ім на запатрабаваньне зброю, ведаючы, што тое самае робіць Расея для партызанаў Арлоўскага-Мухі.

Пасьля контрразьведка мела ў Баранавічах свой выведчы цэнтр і яе агенты былі часта закаптаваны Беларускія патрыёты, пацярпеўшыя ад камуністычнай улады з таго боку, Случчакі і Балахоўцы (паміж імі, між іншым, знаходзіўся і Сяргей Пясецкі, прышлы польскі пісьменьнік, які, злоўлены ГПУ, пачаў працаваць на два бакі і был палякамі ўлічаны ды асуджаны на 15 гадоў катаргі).

Вось жа палякі даволі добра ведалі аб дапамозе камуністычным партызанам праз мяжу і таму застасавалі тую ж тактыку ГПУ, прапануючы зброю і дапамогу ў пераходзе граніцы і экстэрытарыяльныя месцы стаянак і адпачынку на Зах.Беларусі для антыкамуністычных партызанаў «Зялёнага дуба». Цэнтральнае кіраўніцтва «Зялёнага дуба» распалажылася тады ў Пінску, дзе і знаходзіўся атаман Дзяргач, вялікі беларускі патрыёт, рамантык і пісьменьнік. Адпраўным пунктам райдуючых партызанскіх групаў «Зялёнага дуба» была Сіняўка ля Баранавіч. Дачыненьняў да «Зялёнага дуба» ген.Балаховіч ніякіх ня меў, хіба толькі тыя, што некаторыя жаўнеры яго арміі, а пасьля работнікі тартакоў у Гайнаўцы, са свае ахвоты згалашаліся да атрадаў «Зялёнага дуба» на іхныя стаянкі у Заходняй Беларусі.

«Зялёны дуб» моцна дапякаў камуністычным уладам на Беларусі ня толькі сваімі рэйдамі, але і ўзбуджэньнем духа далейшага апору ў шматлікіх мясцовых групах Зялёных. Вот жа ГПУ вырашыла зьнішчыць галоўную стаянку «Зялёнага дуба» у Зах.Беларусі. Дзеля гэтага яна загадала зканцэнтраваць свае партызанскія атрады Арлоўскага і Вапшаўса, дзеючых на Зах.Беларусі, і пазатым прыгатавала атрад чакістаў (штось на узор цяпер называных «камандасаў») і, пераапрануўшы іх у цывільнае, але добра ўзброеных, перакінула праз мяжу ў каманду Арлоўскага. Такім чынам адбыўся напад на Сіняўку. Аднак усупярэч таго, што цьвердзіць Ражкоў, зьнішчыць партызан ім не ўдалося і «Зялёны дуб» дзеяў аж да 1926 году, калі ат. Д.Дзяргач быў зманены ў БССР і зьнішчаны.

### 5. КРЫВАВЫЯ ЎГОДКІ

З «Нівы» даведаўся аб сьвяткаваньні Беларусамі Беласточчыны пад Польшчай знамянальных угодкаў: зламаньня хрыбта польскім нацыяналістычным бандам, якія ад 1947 году рабілі сваю крывавую расправу з мясцовым беларускім насельніцтвам, прабуючы дзікім тэрорам, паленьнем вёсак і пагалоўным выбіваньнем у іх людзей, змусіць усіх Беларусаў перасяліцца ў СССР.

Паводле ўмовы паміж СССР і Польскім камуністычным урадам, Беларусы з Беласточчыны мелі быць пераселеныя ў СССР, але ня шмат Беларусаў хацелі пакідаць родныя мясьціны. Тады на дапамогу савецкім наганятым прыйшлі польскія нацыяналістычныя банды з лясоў, якія фактычна ў 1945-46 годзе панавалі ў начы над вёскамі Беласточчыны. Яны ўпрост давалі наказ, каб у цягу акрэсьленага часу ўсе праваслаўныя беларусы (каталікоў пакідалі) выбіраліся да «руска», а калі не , дык вёску спаляць. Разам з гэтым праводзілі індывідуальны тэрор: забівалі ўсіх, хто вядомы быў як сьвядомы беларус, ды яшчэ дзейны, нават на царкоўным полі, рабавалі апошнія пажыткі, кароў, сьвіней, у каго былі, кажухі ды іншае.

Беларусы, ня хочачы выязджаць у СССР, зьвярнуліся да Польскай камуністычнай улады, якая па-за Беластокам, Бельскам ды вялікшымі мястэчкамі, панавала над Беласточчынай толькі намінальна і толькі ўдзень, каб далі беларускім вёскам зброю для абароны перад бандамі. Улада згадзілася, бо іншага выйсьця ня мела. Беларусы стварылі ва ўсіх вялікіх вёсках самаабарону - міліцыю ОРМО на чале з сваімі камандзірамі (каля двух тысяч чалавек) і пачалі супрацьдзеяньне нацыяналістычным бандам, якія, азьвераныя, пачалі крывавыя напады, падпалы вёсак з загалоўным вынішчэньнем насельніцтва, як гэта здарылася ў вёсках Залешаны, Кошалёва.

Беларусы пачалі адказваць сваімі ўдарамі па бандах, часта іх трэплючы, штораз узмацняючы бясьпеку беларускага насельніцтва. Такім чынам, беларускае насельніцтва ў абароне сваіх бацькоўскіх загонаў і жыцьця апынался мімаходзь у саюзьніках польскай камуністычнай улады, якая як сьлед ацаніла гэта, і ня бачачы іншага выйсьця, як толькі пры дапамозе беларусаў закілзаць нацыянальную збройную анархію ў Беласточчыне, зьвярнулася да СССР аб прыпыненьні рэпатрыяцыі беларусаў з Беласточчыны (пасьпелі вывезьці каля 50 тысячаў чалавек), як патрэбных для замацаваньня камуністычнай улады на месцах.

Прыпала беларусам нямала ўзнагарод за адвагу ў барацьбе з бандамі. Яны сталі ня толькі камендантамі мясцовай міліцыі, але былі выдзьвіганыя і на больш вышэйшыя пасты, як у міліцыі, так і ў войску, дзе лік іх сягае да 40 чалавек у маёрска-палкоўніцкіх чынах. У камуністычнай партыі яны займалі не малое становішча, як напрыклад Лашэвіч, ваявода Папко, Шчырба, Пугоўко, генерал Саўчук і шмат іншых. Нам прыпала доля таксама ўзяць удзел у абароне беларускага насельніцтва Беласточчыны ад вынішчэньня яго зьдзічэлымі польскімі нацыяналістычнымі бандамі. Наш атрад Беларускай Народнай антыгітлераўскай партызанкі дзеяў у ваколіцах Ратна, а потым Дзівіна, Жабінкі і на Драгічыншчыне.

Калі немцы пакідалі Валынь, пераходзячы за Прыпяць на Берасьцейшчыну і Піншчыну, яны, уцякаючы, пакінулі (ня могучы забраць праз Прыпяць) вялікія запасы зброі ў Ратне і Любяшове, што аўтаматычна сталася нашай партызанскай здабычай да прыходу Савецкай арміі. Мой атрад і Харэўскага (імя Нябабы) , які дыслакаваўся ля Любяшова, абагаціліся першагатунковай зброяй. Усім хапіла па нямецкім аўтамаце, дасталіся лёгкія кулямёты, шмат гранат, мінамёты...

Калі мы перайшлі потым на другі бераг Прыпяці, то былі ўзброеныя па зубы, хоць цяжэйшую зброю, як мінамёты, кулямёты і шмат амуніцыі, мусілі закапаць у схоўках. Пасьля здабыцьця Палесься Савецкімі арміямі, мы дзеялі яшчэ больш году на месцы, а потым мой атрад перайшоў новую польскую мяжу ў Беласточчыну, ды дыслакаваўся ў Аўгустоўскіх лясах ля Райгорада, а атрад Харэўскага перайшоў Буг каля Ціраспаля, ды дзеючы некаторы час у нашым акраўку Белападлясчыны, пасьля перасмыкнуўся групамі за мяжу на Захад.

Мы ж асталіся на тэрыторыі Беларусі ў Беласточчыне аж да 1947 году, дапамагаючы мясцовым Беларусам і іхняй самаабароне зламіць хрыбет нацыяналістычным бандам, наводзіўшым беларусам тэрор на насельніцтва. Пасьля зьнішчэньня бандамі некалькіх беларускіх вёсак разам з насельніцтвам, мы навязалі з беларускімі міліцыйнымі адзінкамі кантакты, дзелячыся дадзенымі аб польскіх бандах, ды ўзгадняючы дзеяньні, прыняўшы джэнтэльменскі дагавор не нападаць на сябе.

Такім чынам была зьнішчаная найгразьнейшая банда Бурага, а пасьля і банды Жбіка, Роха. Некалькі банд мы зьнішчылі самі ў лясах Аўгустоўшчыны. Калі небясьпека мінула і насланыя польскія вайсковыя атрады пачалі наступаць нам на пяты, прыйшлося, каб аберагчыся ад зьнішчэньня, партызаншчыну канчаць, тым больш, што на месцах у большасьці паўстала мясцовая адміністрацыя з Беларусаў, хоць пад камуністычнай вывескай, але з якімі мы былі саюзьнікамі, а ня ворагамі. Нацыяналістычнага польскага ворага ўжо дабівалі яны самі.

Пры адпаведнай скрытай дапамозе ўдзячных суродзічаў на адпаведных становішчах і па іх радах, наш атрад перасякнуўся адзінкамі праз нямецкія межы. Такім чынам, гэтыя ўгодкі Беластаччан - і нашыя ўгодкі!

### 6. ДЗЕ ГІНУЛІ МУХАЎЦЫ

У сваім часе я напісаў інфармацыю аб лёсе атамана Мухі і ягоных сяброў, супраўваджаных у 1925 годзе з Заходняй Беларусі у БССР, пасьля Маскоўскай пастановы прыпыніць партызанскую дзейнасьць пад Польшчай. Укрытыя яны былі да часу ў Лошыцы (прыменскім маёнтку), а пасьля слых аб іх загінуў, па-за самым іхным камісарам - гэпістам -Кірылай Арлоўскім, ягоным супольнікам Каржом і Гарбацэвічам. Як нашыя выведчыкі, прасмыкнуўшыся аж да Лошыцы, даведаліся тады, што Муху і яго партызан адной ночы наехаўшае ГПУ расстраляла і трупы вывезла грузавікамі. Афіцыйная версія была такая, што недзе ля Менску быў спынены і абрабаваны цягнік, падазраецца, што гэта зрабілі знаходзячыеся ў Лошыцы бяз справы партызаны Мухі (Арлоўскага і яго кумпаноў з імі не было, бо яны сядзелі сабе ў Менску , а не ў ізаляцыі); неафіцыйная ж - што партызаны бурыліся супраць савецкай пастановы спыніць партызанскую барацьбу і не пусьціць назад партызан.

А вось зараз я прачытаў кавалак успамінаў з канцэнтрацыйных лагероў Кіпеля, што былі надрукаваныя ў газетах, і даведваюся, што аднак ня ўсе мухаўцы былі расстраляныя ў Лошыцы, бо частку сустрэў іх у лагерах ўспомнены Яўхім Кіпель. Што гэта былі мухаўцы ясна з таго, што называе іх партызанамі на Заходняй Беларусі, якія былі ў Лошыцы. Такім чынам, маю папярэднюю інфармацыю аб лёсе Мухі трэба паправіць з тым, што частка з іх была не расстраляная ў Лошыцы, а вывезеная ў Сібір у канцэнтрацыйныя лагеры.

### 7. УВАГА! ПАМЫЛКА!

У N 266 за чэрвень заўважыў прыкрую памылку ў артыкуле Васіля Віра з каментарамі аб Украінскім супернацыяналісьце праф. Ільву Шанкаўскім. Пад Каменем Кашырскім мясцовасьць, што была базай нашай бэнээраўскай партызанкі процiў Польшчы (атамана Харэўскага), а ў апошнюю вайну супраць Немцаў, называецца Кухоцкая Воля, а не «Вялікая», як стаіць у артыкуле. Ёсьць яшчэ Бельская Воля, якая ляжыць больш на поўдзень і хоць уваходзіла таксама ў засяг нашай дыслакацыі, але не была гэтым цэнтрам. Вялікая Воля ляжыць пры Ліпічанскай Пушчы і была апорным пунктам бэнээраўскай партызанкі атамана Шаршня.

## ДАКУМАНТЫ І ЛІСТЫ

### САЮЗ БЫЛЫХ УДЗЕЛЬНІКАЎ ЗБРОЙНАЙ БАРАЦЬБЫ ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСІ

*Дарагі сябра Хмара!*

*Знагоды твайго 50-цігадовага юбілею як журналіста і аўтара нашых партызанскіх песьняў 1922-25 гг. ад імя нашага Саюзу засылаем Табе нашыя шчырыя прывітаньні і пажаданьні далейшай стойкай няўтомнай дзейнасьці на гэтым полі, дзякуючы чаму баёвыя дзеі Беларускага Народу зафіксаваныя ў гісторыі і разаблачаныя фальсіфікатары.*

*У Змаганьні Пераможам!*

**ат.Я.Таўпека ат.І.Перагуд**

### 2. САРАКАВЫЯ ЎГОДКІ ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

*Порто Алегро, Бразілія.*

*На Купальле зьехалася нашая партызанская браць-сябрына, каб адзначыць у сваім сяброўскім коле 40-я ўгодкі нашых збройных антыгітлераўскіх і антыкамуністычных сіл, ды іх зьяднаньня ў Беларускую Народную Партызанку, а разам адсьвяткаваць з нашым Атаманам яго 82-ыя ўгодкі нарадзінаў. На спатканьне прыбыло і чатыры нашых сябра з Парагваю. Успомнілі добрым словам і загінуўшага тут жа ў Бразіліі нашага слаўнага Каманьдзіра аддзела Нябабы - атамана Новіка-Харэўскага. Атаман Перагуд расказаў некалькі эпізодаў з тых часоў збройнай барацьбы з панскай Польшчай - Пілсудзкага, а потым аб нашым паўстаньні ў 1939 годзе на Палесьсі (якім кіравалі Тарасюк і Харэўскі), каб стварыць Заходнебеларускую Рэспубліку. На заканчэньне сьпявалі нашыя партызанскія песьні. Атаман Перагуд аднагалосна пацьверджаны на далейшае кіраваньне нашым аддзелам СБУЗБЗВБ.*

**Удзельнік.**





# праграма тэлеперадач

## Панядзелак, 11 сакавіка

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 «Игорь Ильинский. Уроки жизни». Д/ф. 9.00 «Огневушка-поскакушка». Х/ф. 9.30 Мультфильм. 10.35 «Души моей царицы...» Ф/к. 11.45 «Вы чье, старичье?» Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильм. 15.40 «Я вернусь...» Д/ф. 16.20 ТВ - школе. 16.35 «Дедка за репку». 17.05 Параграф. 17.35 На добрый лад. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «История одной любви». Д/ф. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 «Крок». 19.35 «Это мы не проходили...» 19.50 Телевизионный Дом кино. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.10 Х/ф «Цыган». 23.30 Мастерская. Г.Нестеров. 24.00 Новости. ГРОДНО: 16.35 "Плюс-минус". 17.15 Ответственные лица информируют. 17.50 Неделя. 18.20 Семейный понедельник.

### ОРТ

14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Марафон-15 15.00 Звездный час 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Джэм 16.30 Семь дней спорта 17.00 Новости 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Если. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама 20.00 Время 20.30 Операция 20.45 Программа передач 20.50 «Метод Крекера». 21.50 Радзинский о Татьяне Дорониной 22.35 Новости 22.45 Фильм «Взломщик»

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Клип-антракт. 17.00 «От винта». 17.15 Спасение 911. 18.10 L-клуб. 19.25 Подробности. 19.35 «Смерть личности». Х/ф. Ч. 2. 20.40 Репортер. 20.55 Прогноз погоды. 21.05 Без ретуши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Спрут-6». с. 7.

### Санкт-Петербург

12.00,15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.10 Скорая помощь. 13.30 Путешествие по Востоку. 13.40,17.35 Музыкальный момент. 13.50, 15.55 Фильм А.Вайды «Земля обетованная». 15.40 «Немецкая волна». 17.10 Стиль жизни. 17.25 Мультфильм. 17.40 Страсти-мордасти. 17.55 Приказано выжить. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Путешествие в счастливую Аравию». Х/ф. 21.15 «Дом кино». 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.25 День рождения. 22.35 «Телекомпакт». 23.15 Овертайм.

### Польское телевидение

### Программа 1

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 «Мода на успех». Сериал пр-ва США. 09 30 Телетурнир для детей. 10 00 Новости. 10 10 Мама и я. 10 25 Гимнастика для дошкольников. 10 30 Дошкольники дома. 10 55 Поговорим о детях. 11 05 «Доктор Квинн». Сериал пр-ва США. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Программка для зверят. 12 15 Дети такие, как наши. 12 30 Мир Людей. 12 50 Программа о поэзии. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Индекс. 13 40 Образовательная информация. 13 45 Школа. 14 05 Зеленым вверх. 14 25 Сила традиций. 14 35 Облик Австрии. 15 00 Когда придет весна? 15 10 И тело и душа. 15 50 Программа дня. 16 00 Для молодых зрителей. 16 30 «Мода на успех». Сериал пр-ва США. 17 00 Программа для молодежи. 17 25 Программа для детей. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Публицистическая программа. 19 10 «Марфи Браун». Сериал пр-ва США. 19 35 Виват Полония! 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 Телетеатр. 22 50 Пульс дня. 23 05 Неделя президента. 23 15 Миниатюры. 23 25 Тележурнал. 23 50 Военный обзор. 00 05 Новости. 00 30 «Вечерние гости». Фильм пр-ва Швеции. 01 40 Репортаж. 02 00 Развлекательная программа.

### Программа 2

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 15 Утренний гость. 08 50 Академия здоровья. 09 00 Местная программа. 09 30 «Здровко». Сериал пр-ва США. 10 00 Мир женщин. 10 30 Наша большая семья. 11 00 Кроссворд. 11 25 Телетурнир. 11 50 Летный журнал. 12 20 Сообщество в культуре. 13 00 Биографии. 14 00 Панорама. 14 20 «Шампанский Чарли». Сериал пр-ва США. 15 10 Музыкальная программа. 15 40 Музыкальные новости. 15 55 Приветствие. 16 00 Мультсериал. 16 25 Академия здоровья. 16 35 Спортивное хобби. 17 00 Репортаж. 17 30 Футбольный журнал. 18 00 Документальный фильм. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 05 Колесо фортуны. 20 30 Программа для детей. 21 00 «Здровко». Сериал пр-ва США. 21 30 Автожурнал. 22 00 Панорама. 22 30 Спортивная программа. 22 40 «На бездорожье счастья». Сериал пр-ва Германии. 23 35 Конкурс песни. 01 05 Панорама. 01 10 Сергей Рахманинов.

### IV канал, НТВ

7.30 Мир вашему дому. 7.40 СИВ. 7.50 Рукодельница. 8.05 «Школ-фильм» для детей. 8.15 «Ханжонков и Ко». Часть 1-я. 9.15 Новая начальная школа. 9.45 Ноу-хау. 10.00 Итальянский язык. 10.30 СИВ. 10.35 Мир денег Адама Смита. 11.30 В рабочий полдень. 12.30 Час «Реалиста». 13.30 СИВ. 13.35 «Великая американская природа». Ф. 9. 14.00 Фестиваль-премьер. 14.45 «О любви». Спектакль 15.45 Соседи по планете. 16.15 «Уроки Фемиды». 16.45 СИВ. 17.00 НТВ: анонс недели. 17.05 Кинотеатр юного зрителя. «Чудесные годы». 96-я серия (США). 17.30 Футбольный клуб. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Регулярные матчи НХЛ. «Филадельфия» - «Нью-Джерси». 21.00 «Сегодня». 21.35 Фильм Л.Вертмюллер «Тайный десятый». Ч. 1. 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 «Пилот-2».

## Аўторак, 12 сакавіка

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 ТВ - школе. 9.15 «Вестгейт». 10.10 «Последней весной...» Ф/к. 10.40 «Марица». Х/ф. 11.45 «Был день и время». Д/ф. 12.35 «Картина». Х/ф. с. 1. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильмы. 15.40 ТВ - школе. 16.20 «Все про все». 16.45 «Неизреченное». ч. 1 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Инваспорт. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 Вертикаль. 19.40 «Вестгейт». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Фильм «Полет ночной бабочки». 23.30 Супергол. 24.00 Новости. ГРОДНО: 17.20 Так говорит Библия. 17.50 Дневник Принеманья. 18.00 По существу. 18.10 Т. лекабинет власти. На вопросы отвечает заместитель председателя облисполкома А.М.Пашкевич.

### ОРТ

5.00 Телеутро 8.00 Новости 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Если. 9.50 Смехопанорама. 10.15 Мультфильм 10.30 Угадай мелодию. 11.00 Новости 11.10 «Мы и рынок» 11.50 «Открытая книга». Ф. 1. с. 1 13.00 Мультфильм 14.00 Новости 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Кварьете «Веселая квампания» 14.50 Мультитроллия 15.10 Волшебный мир, или Синема 15.35 «Элен и ребята». 16.00 ...До шестнадцати и старше 16.30 Семь дней спорта 17.00 Новости 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Тема 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама 20.00 Время 20.30 Операция 20.45 Программа передач 20.50 Фильм «Улица полна неожиданностей» 22.05 Москва - Кремль 22.25 Пресс-клуб 23.35 Новости 23.45 «Волшебная сила искусства». Телефильм 0.50 Семь дней спорта

### Канал «Россия»

15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Компас «Роста». 15.45 Месяцеслов. 15.55 Клип-антракт. 15.50 Месяцеслов. 16.00,19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Мультфильм. 16.55 Киноафиша. 17.10 Непопулярная тема. 17.25 Устами младенца. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Штаны». Х/ф. 21.10 Чемпионат Европы по баскетболу среди клубных команд. ЦСКА -»По-Ортез» (Франция). 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 ЭКС 22.50 «Спрут-6». с. 8 23.45 Джаз-клуб.

### Санкт-Петербург

12.00,15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.00 Скорая помощь. 13.30 Советы садоводам. 13.40 Овертайм. 14.00 «Немецкая волна». 14.15 Стиль жизни. 14.30 «Похищение чародея». Спектакль. 16.25 Детское ТВ. 16.55, 19.45 Музыкальный момент. 17.00 По всей России. 17.10 ЛОТ 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Тихий вечер» с С.Шолоховым. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 Х/ф «Ленинградские ковбои» встречаются с Моисеем».

### Польское телевидение

### Программа 1

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 Мультсериал. 09 30 Телетурнир. 10 00 Новости. 10 10 Мама и я. 10 25 Гимнастика. 10 30 Дошкольники дома. 10 55 Поговорим о детях. 11 00 «Доченьки миллионера». Сериал пр-ва США. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Рынок труда. 12 20 Тележурнал. 12 30 Киножурнал. 12 50 Домашний юрист. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Тележурнал. 13 45 Компьютерная школа. 14 00 Мозг. 14 30 Балтийские технологии. 14 45 Альфа. 15 00 Тележурнал. 15 30 Лаборатория. 15 50 Программа дня. 16 00 Музыкальная программа. 16 30 «Новые приключения Черного Князя». Сериал пр-ва Австралии. 17 25 Программа для детей. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Зимний праздник музыки. 18 50 Лучшие книги. 19 00 «Не от мира сего». Сериал пр-ва США. 19 30 Чрезвычайный пересмотр. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 «Госпожа Броди». Фильм пр-ва Англии. 23 05 Пульс дня. 23 20 Сеймограф. 23 30 Люди, власть, деньги. 00 05 Новости. 00 20 Мир это литература. 01 10 Программа о поэзии. 01 20 Искусство, неискусство. 01 40 Откуда эта впечатлительность. 02 15 Корни.

### Программа 2

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 15 Утренний гость. 08 50 Академия здоровья. 09 00 Местная программа. 09 30 «Фитнесс клуб». Сериал пр-ва Польши. 10 00 Мир женщин. 10 30 Документальный сериал. 11 00 Программа для детей. 11 30 Телетурнир. 11 55 Путешествия во времени и пространстве. 12 45 Спортивная студия. 13 05 Музыкальное путешествие. 14 00 Панорама. 14 20 «Запретная любовь». Сериал пр-ва Испании. 15 10 Музыкальный журнал. 15 40 Музыкальные новости. 16 00 Сериал пр-ва Канады. 16 25 Академия здоровья. 16 35 Спортивная студия. 17 00 Обзор кинохроник. 17 30 Телетурнир. 18 00 Тележурнал. 18 10 Кузница элит. 18 40 Католическая программа. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 05 Телетурнир. 20 35 Программа для детей. 21 00 Развлекательная программа. 22 00 Панорама. 22 30 Спортивная программа. 22 40 Экологическая программа. 22 50 Репортеры представляют. 23 15 «Взлом». Комедия пр-ва США.

### IV канал, НТВ

7.30 Мир вашему дому. 7.40 СИВ. 7.50 Французский язык для детей. 8.10 «Ханжонков и Ко». Ч. 2. 9.10 Высшая школа. 9.25 Французский язык. 10.30 СИВ. 10.35 Неизвестная Москва. 10.50 На золотом крыльце сидели. 11.05 Защита и безопасность. 11.30 В рабочий полдень. 12.30 Час «Реалиста». 13.30 СИВ. 13.35 Новый старый мир. 14.05 Медицинские новости России. 14.10 «Красное ии черное». с. 3. 15.15 Современные мемуары. 15.45 Кумиры. 16.15 Главный здесь я. 16.45 СИВ. 17.00 «Чудесные годы». 17.30 Большой ринг. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Фильм В.Миннелли «Нина, это покажет время». 20.45 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 Фильм «Тайный десятый». Ч. 2. 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 Меломания: «Юритмикс».

## Серада, 13 сакавіка

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 Мультфильм. 8.25 «Не улетай, землянин!» Х/ф. 9.00 ТВ - школе. 9.40 «Вестгейт». 10.35 Зорная ростань. 11.15 Видимо-невидимо. 12.15 «Картина». с. 2. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильм. 15.25 «Неизреченное». Ч. 2. 16.00 «Отголосок-86». 16.30 «Крок». 17.00 Кредо. 17.20 Гости в дом. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Родное слово. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 Контрасты. 19.35 «Кто это?» 19.40 «Вестгейт». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф «Невероятные приключения итальянцев в России». 24.00 Новости. 0.15 Королевская охота. ГРОДНО: 17.00 "Плывёт мелодия над материнскими просторами". Фестиваль в Белостоке "Белорусская песня-96". 17.45 Потребительская торговля: перспективы развития. 18.05 Дневник Принеманья. 18.20 Символ веры.

### ОРТ

5.00 Телеутро 8.00 Новости 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Тема 9.50 В мире животных 10.30 Угадай мелодию. 11.00 Новости 11.10 «Контакт» 11.50 «Открытая книга». Ф. 1. с. 2 13.00 Мультфильм 14.00 Новости 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Кактус и Ко 14.50 До-ми-соль 15.10 Зов джунглей 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Тет-а-тет 16.30 Семь дней спорта 17.00 Новости 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Парижские тайны Рязанова. Марина Влади 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время 20.30 Операция 20.50 Фильм С.Говорухина «Десять негритят» 23.10 Новости 23.20 Новые обыватели 23.45 «Карамболина-Карамболетта». М/ф 0.50 Семь дней спорта

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». Х/ф. 10.00,16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Музыкальный экспромт. 10.45 «Волшебный школьный автобус». 11.15 Новая линия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 Никто не забыт. 16.55 Ваш партнер. 17.10 К.Мажейка. «Параллели». 17.25 Своя игра. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Х/ф. 20.30 От форте до пьяно. 21.00 Прогноз погоды. 21.10 Рек-тайм. 21.25 Астрология любви. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Сад культуры.

### Санкт-Петербург

12.00,15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.00 Скорая помощь. 13.30 Советы садоводам. 13.40 «Я возвращаю Ваш портрет». М/ф. 14.40 Мультфильмы. 15.05,17.05, 21.00 Музыкальный момент. 15.15 Стиль жизни. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 «Дом кино». 16.35 Детское ТВ. 17.10 ЛОТ 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 Час мэра. 21.05 Блеф-клуб. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 Парадоксы истории.

### Польское телевидение

### Программа 1

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 «Мода на успех». Сериал пр-ва США. 09 30 Программа для детей. 10 00 Новости. 10 10 Мама и я. 10 25 Гимнастика. 10 30 Дошкольники дома. 10 55 Поговорим о детях. 11 00 «Танцы на льду». Сериал пр-ва Германии. 11 40 Музыкальная программа. 12 00 Тележурнал. 12 30 Вместе или отдельно. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Ближе к природе. 13 40 Грамматика. 14 00 История с мышкой и компьютером. 14 25 Фабриканты. 14 55 Выскажись. 15 00 Особенные коллекции. 15 25 Гость дня. 15 30 Казимир Островский. 15 50 Программа на вечер. 16 00 Музыкально-поэтическая программа. 16 30 «Мода на успех». Сериал пр-ва США. 17 00 Программа для молодежи. 17 25 Программа для детей. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Телетурнир. 18 45 С камерой среди зверей. 19 05 «Успех». Сериал Польши. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 «Паспорт в рай». Фильм пр-ва США. 22 40 Пульс дня. 23 00 Новая Польша. 23 45 Репортаж. 00 15 Новости. 00 30 «Ключник». Фильм пр-ва Польши. 01 50 Обряды и обычаи. 02 40 Культурно-публицистическая программа.

### Программа 2

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 15 Утренний гость. 08 50 Академия здоровья. 09 00 Местная программа. 09 30 «Счастливые дни». Сериал пр-ва США. 10 00 Трансляция заседаний сейма. 14 00 Панорама. 15 55 Приветствие. 16 00 Мультсериал. 16 25 Академия здоровья. 16 35 Пейзаж польской деревни. 17 00 Животные вокруг нас. 17 30 Телетурнир. 18 00 Документальный фильм. 18 55 Розыгрыш лото. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 05 Один из десяти. 20 35 Программа для детей. 21 00 Юбилей Генриха Мицкевича.. 22 00 Панорама. 22 30 Спортивная программа. 22 40 Экспресс репортеров. 23 10 Балетная программа. 01 25 Панорама.

### IV канал, НТВ

7.30 Мир вашему дому. 7.40 СИВ. 7.50 «Памяти Врубеля». Д/ф. 8.10 Русская музыкальная коллегия. 8.25 «Александр II». Д/ф. 9.35 Немецкий язык. 10.30 СИВ. 10.35 Шоу «Звезды эстрады». 11.30 В рабочий полдень. 12.30 Час «Реалиста». 13.30 СИВ. 13.35 Компьютерный вестник. 14.05 «Красное и черное». с. 4. 15.10 Темкины открытия. 15.30 Аудитория. 16.15 Пигмалион. 16.45 СИВ. 17.00 «Чудесные годы». 17.30 Такова спортивная жизнь. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Фильм Дж.Демми «Замужем за мафией». 20.45 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 Фильм Н.Лоя «Салонная игра». 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 Кафе Обломов.

## Чацьвер, 14 сакавіка

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Мужской хор»,»Три истории с телефоном». Х/ф. 9.00 «Вестгейт». 9.55 Мультфильмы. 10.25 «История о принцессе-пастушке и ее верном коне Фалладе». Х/ф. 11.45 «Голуби мои, вы милые...» Д/ф. 12.05 «Картина». Х/ф. 3-я серия. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильмы. 15.45 ТВ - школе. 16.15 «Неизреченное». Ч. 3. 16.50 Уроки Н.Новожиловой. 17.20 Арсенал. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Игра в куклы. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 Международный курьер. 19.40 «Вестгейт». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф «Осенний марафон». 23.45 «Крок». 0.15 Новости. ГРОДНО: 17.20 Над Неманом. Программа на польском языке. 17.50 Дневник Принеманья. 18.10 По существу. 18.20 "Гостинец". Программа для молодёжи.

### ОРТ

5.00 Телеутро 8.00 Новости 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Парижские тайны Рязанова. Марина Влади 9.45 Клуб путешественников 10.30 Мультфильм 10.40 Смак 11.00 Новости 11.10 «Под крышей мира» 11.50 «Открытая книга». Ф. 1. с. 3 13.00 Мультфильм 14.00 Новости 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Лего-го! 15.10 Тин-Тоник 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Рок-урок 16.30 Семь дней спорта 17.00 Новости 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик 18.35 Лотто-Миллион 19.00 Один на один. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама 20.00 Время 20.30 Операция 20.45 Программа передач 20.50 Фильм «Батарейки в комплект не входят» 22.40 Музыкальное шоу И.Демидова 23.30 Новости 23.40 «Где бы ни работать...» Т/ф 0.55 Семь дней спорта

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». Х/ф. 10.00,16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Мульти-пульти. 10.45 «Волшебный школьный автобус». 11.15 Новая линия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Кенгуру. 16.20 Новая линия. 16.50 Клип-антракт. 16.55 Эксповидео. 17.10 Музыка на десерт. 17.25 Лидер-прогноз. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Х/ф. 20.30 Джэнтльмен-шоу. 21.00 Прогноз погоды. 21.10 «Доктор-шлягер». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 ЭКС 22.50 «Спрут-6». с. 9

### Санкт-Петербург

15.05 Советы садоводам. 15.15 Стиль жизни. 15.30,18.30, 21.45 Информ ТВ. 15.40 «Немецкая волна». 15.55 «Первая любовь». 16.40 Пой с нами. 17.00 По всей России. 17.10 ЛОТ 18.15 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45,21.35 Музыкальный момент. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Певец. Игрок. Бродяга». Родд Велл. 20.30 Экспресс-кино. 20.45 «Золотой Телец». 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 «Старое танго». 22.40 Ток-шоу «Личные дела».

### Польское телевидение

### Программа 1

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 Мультсериал. 09 30 Программа для детей. 10 00 Новости. 10 10 Мама и я. 10 20 Гимнастика. 10 30 Дошкольники дома. 10 55 Поговорим о детях. 11 05 «Юристы из города Ангелов». Сериал пр-ва США. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Кулинарная программа. 12 20 Это легко. 12 30 Таков мир. 12 45 Жить успешней. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Сельскохозяйственный журнал. 13 40 Робинзоны. 13 55 Клиппер. 14 15 За семью горами. 14 45 Животные мира. 15 15 Таков пейзаж. 15 35 Программа о питании. 15 50 Программа на вечер. 16 00 Музыкальная программа. 16 30 «Макс Глик». Сериал пр-ва Канады. 17 00 Программа для молодежи. 17 25 Программа для детей. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Киножурнал. 18 40 Автомания. 19 10 «Папа майор». Сериал пр-ва США. 19 30 Католический журнал. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 «Неприкасаемые». Сериал пр-ва США. 22 00 Публицистическая программа. 23 20 Правительственный журнал. 23 30 Пегас. 00 00 Хозяйственные новости. 00 15 Лучшие книги. 00 20 Документальный фильм. 01 50 «Телефон 110». Фильм пр-ва Германии.

### Программа 2

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 15 Утренний гость. 08 50 Академия здоровья. 09 00 Местная программа. 09 30 «Дети, заботы и мы». Сериал пр-ва США. 10 00 Трансляция заседаний сейма. 14 00 Панорама. 15 55 Приветствие. 16 00 Под небом Африки. 16 25 Академия здоровья. 16 35 Спортивная студия. 17 00 Документальный фильм. 17 35 Телетурнир. 18 00 Один на один. 18 30 Документальный фильм. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 05 Один из десяти. 20 35 Клуб пана Рыся. 21 00 Публицистическая программа. 22 00 Панорама. 22 30 Спортивная программа. 22 40 Развлекательная программа. 22 45 «Пьющие кровь». Фильм ужасов пр-ва СССР. 00 30 Беседа с Т. Конвицким. 00 45 Музыкальная программа. 01 00 Панорама. 01 05 «Джон, Джордж и остальные». Сериал пр-ва США. 01 30 Концерт.

### IV канал, НТВ

7.30 Мир вашему дому. 7.40 СИВ. 7.50 Немецкий язык для детей. 8.15 Вариации на испанскую тему. 9.00 Ноу-хау 9.30 Испанский язык. 10.30 СИВ. 10.35 АРИОС. 11.30 В рабочий полдень. 12.30 Час «Реалиста». 13.30 СИВ. 13.35 Чужие?.. 14.05 «Красное и черное». с. 5 15.15 Средняя школа сегодня. 15.45 Ключи серебряные. Март. 16.15 Амплитуда успеха. 16.30 Маленький концерт. 16.45 СИВ. 17.00 «Чудесные годы». 17.30 Полчаса о теннисе. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Фильм А.Хиллера «Больница». 20.50 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 Фильм Д.Ризи «Жить — скверная привычка» 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 Фильме В.Аллена «Манхэттэн»

# На тыдзень

## Пятніца, 15 сакавіка

### Белорусское телевидение

**7.35** «Лявоны». Ф/к. **8.05** «Сказка про Звездного мальчика». Х/ф. **10.15** «Неизреченное». Ч. 4. **10.40** Д/ф «Что было, что есть, что будет...» **11.30** Контрасты. **12.00** Творцы. **12.45** Дни и вечера. **13.45** «Весна на Заречной улице». Х/ф. **15.15** Государственному театру музыкальной комедии Беларуси -25 лет. Гала-концерт. **16.55** Международный турнир по фехтованию памяти Г.Бокуна. **17.25** Золотая лира. **18.40** «Белые Росы». Х/ф. **20.05** Фильм «Поет «Беседа». **20.40** Колыбельная. **21.00** Новости. **21.45** «Цветы провинции». Х/ф. **23.05** Акколада.

### ОРТ

**5.00** Телеутро **8.00** Новости **8.15** «Секрет тропиканки». **9.05** Один на один. **9.45** Играй, гармонь любимая! **10.15** Мультфильм **10.25** Пока все дома **11.00** Новости **11.10** «Беларусь сегодня». **11.50** «Открытая книга». Ф. 1. с. 4 **13.00** Мультфильм **14.00** Новости **14.20** «Драконы подземелий». **14.50** «Леля и Минька». Спектакль **15.15** Фильм-сказка «Конек-горбунок» **16.25** Мультфильм **16.30** Семь дней спорта **17.00** Новости **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** «Звезда» представляет... **18.25** Человек и закон **18.55** Поле чудес **19.45** Спокойной ночи, малыши! **19.55** Реклама **20.00** Время **20.37** Реклама **20.40** Программа передач **20.45** «Детективное агентство»Лунный свет». **21.40** Взгляд **22.25** Новости **22.35** Фильм «Афера-2» **0.15** Семь дней спорта

### Канал «Россия»

**9.05** «Санта-Барбара». Х/ф. **10.00,16.00, 19.00, 22.00** Вести. **10.20** Милицейская хроника. **10.30** Торговый дом. **10.45** Белая ворона. **11.15** Новая линия. **15.05** Праздник каждый день. **15.15** Там-там новости. **15.30** Продленка. **15.50** Месяцеслов. **16.20** Новая линия. **16.35** Дисней по пятницам. **18.20** Клип-антракт. **18.25** Правительственные будни. **19.25** Подробности. **19.35** «Санта-Барбара». Х/ф. **20.30** Анализы недели. **21.00** Прогноз погоды. **21.10** «Абзац». **22.30** Река времени. **22.35** Автомиг. **22.40** Дневник фестиваля «Золотая маска». **22.55** Музыка всех поколений. **23.25** «Как тени мечутся в грозу». Х/ф.

### Санкт-Петербург

**12.00,15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Первая любовь». **13.00** Скорая помощь. **13.30** Советы садоводам. **13.40** Телешансон. **14.05** «Европейский калейдоскоп». **14.35,17.05, 19.45, 20.05, 21.35** Музыкальный момент. **14.40** «Записано золотыми буквами». Т/ф. **15.10** Телеблиц. **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** «Старое танго». **16.20** Детское «Баламуты». **17.10** ЛОТ **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **18.55** «Первая любовь». **19.50** Телеслужба безопасности. **20.10** «Мишени». Х/ф. **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения. **22.20** Парад парадов.

### Польское телевидение

#### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **09 30** Форум школьных театров. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 25** Дошкольники дома. **11 00** Сериал пр-ва США. **11 45** Музыкальная программа. **12 00** Сделай как мы. **12 15** Малый взгляд. **12 30** Под чертой. **12 50** Спасти от забытья. **13 00** Новости. **13 10** Агробизнес. **13 15** Сельскохозяйственный журнал. **13 45** Новые обряды. **14 05** Идолы? **14 25** Тележурнал. **14 40** Иное измерение. **14 50** Если не Оксфорд, то что? **15 00** Репортаж. **15 30** Если не Оксфорд, то что? **15 50** Программа дня. **16 00** Музыкальная программа. **16 30** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **17 00** Программа для молодежи. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Тележурнал. **18 30** Еженедельник культуры. **18 45** Журнал потребителя. **19 05** Свидание втемную. **19 50** Развлекательная программа. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Паршивая двенадцатка». Фильм пр-ва США. **23 45** Пульс дня. **00 00** Четверть часа. **00 25** Новости. **00 40** Тележурнал. **01 15** «Хеннесси». Фильм пр-ва Англии. **02 55** Еженедельник культуры.

#### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спорт. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Полный дом». Сериал пр-ва США. **10 00** Трансляция заседаний сейма. **14 00** Панорама. **15 55** Приветствие. **16 00** Мультсериал. **16 25** Академия здоровья. **16 40** Музыкальная программа. **17 05** Спортивная студия. **18 00** Развлекательная программа. **18 30** «Полный дом». Сериал пр-ва США. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Телетурнир. **20 35** Программа для детей. **21 00** Прекраснейшие воспоминания. **22 00** Панорама. **22 35** Спортивная программа. **22 40** Репортаж. **23 40** «Зависть». Фильм пр-ва США. **00 10** «Дети Голивуда». Документальный сериал. **01 05** Музыкальная программа.

### IV канал, НТВ

**7.30** Мир вашему дому. **7.40** СИВ. **7.50** Английский язык для детей. **8.10** Как устроен мир. **8.30** Искусство актера. **9.30** Английский язык. **10.30** СИВ. **10.35** Планета «Здоровье». **11.10** Деловой блокнот. **11.30** В рабочий полдень. **12.30** Час «Реалиста». **13.30** СИВ. **13.35** Мультфильм. **13.45** Школа начинающего спортсмена. **14.00** «Ах, водевиль, водевиль...» Х/ф **15.05** Минарет. **15.35** Вас приглашает Л.Рубальская. **16.30** Шанс. **16.45** СИВ. **17.00** «Чудесные годы». **17.30** Футбольный клуб. **18.00** «Сегодня». **18.35** Герой дня. **19.00** Фильм «Трактир на Пятницкой». **20.30** «ТЭФИ-96»: кто есть кто. **20.40** «Оба-на»: избранное. **21.00** «Сегодня». **21.35** Фильм Л. Мани «Кино» **22.30** Времечко. **23.00** «Сегодня». **23.20** Х/ф «Красная маска Смерти». **0.50** Эротические шоу мира.

## Субота, 16 сакавіка

### Белорусское телевидение

**8.00** «Ромео и Юлия». Фильм-концерт. **8.15** Уроки Н.Новожиловой. **8.45** Созвучие. Передача из Гродно. **9.05** Сущность. Духовная программа. **9.25** Здоровье. **9.45** «Дорога наверх» **10.05** Мультфильм. **10.25** «Все про все». **10.50** «Ералаш». **11.10** Путешественник. **11.40** «Моя любовь, моя печаль». **12.40** Гурман. **13.00** Мир природы и увлечений. **13.45** Олимпийский силуэт. **14.05** Многоголосие. **14.35** Коллаж. **15.05** Музыкальный салон Э.Езерской. **15.45** Белорусский дом. **16.25** «Зорная ростань». **17.05** Четвертое измерение. **18.00** Галерея. **18.35** «Леди и разбойник». Х/ф **20.05** Банка комиксов. **20.40** Колыбельная. **21.00** Новости. **21.45** «Объект красоты». Х/ф. **23.40** Видимо-невидимо. **0.40** «Я люблю джаз».

### ОРТ

**6.45** Телеканал «Подъем!» **7.45** Слово пастыря. **8.00** Новости **8.10** Телеканал «Подъем!» **9.30** Не зевай! **10.00** Утренняя почта **10.35** Смак **10.50** «Эрмитаж». Искусство Китая. **11.20** Фильм «Случайные пассажиры» **12.45** Умники и умницы **13.30** Автомобиль и я **14.00** Новости **14.20** В мире животных **14.55** Америка с М.Таратутой **15.25** Бомонд **15.50** Футбол. Чемпионат России. **17.55** Как-то раз **18.10** Фильм «Пираты XX века» **19.45** Спокойной ночи, малыши! **19.55** Реклама **20.00** Время **20.35** Реклама **20.40** Программа передач **20.45** «Детективное агентство «Лунный свет». **21.40** Брэйн ринг **22.25** Новости **22.35** Фильм И.Бергмана «Сцены из семейной жизни»

### Канал «Россия»

**7.00,13.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** «Что день грядущий...» **7.30** «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». **7.45** Золотой ключик. **8.05** Этикетка. **8.15** Мультфильм. **8.45** Парламентская неделя. **9.30** Большой хоккей. **10.10** До Москвы - далеко. **10.55, 22.30** Служба 299-00-00. **11.10** Карьера. **11.40** Сигнальный экземпляр. **11.50** Твои возможнасти, человек. **12.20** Клип-антракт. **12.30** «Поэт в России - больше, чем поэт». **13.20** Де факто. **13.35** «Эмили». Т/ф. **14.25** Караоке по-русски. **14.45** Пилигрим. **15.30** Площадь искусств. «Венецианский карнавал». **16.15** Империя игр.»Гладиаторы». **17.05** XX век в кадре и за кадром. **17.55** «Петербургские тайны». **19.25** Субботний вечер с В.Юдашкиным. **20.50** Прогноз погоды. **21.00** Аншлаг и Ко. **22.45** Река времени. **22.50** Автомиг. **22.55** Программа «А».

### Санкт-Петербург

**9.00** Актуально-насущно. **9.30** Стиль жизни. **9.45** «Крик о помощи». Х/ф. ч. 1. **10.45** День рождения. **10.50** «Путешествие в Лилипутию Лемюэла Гулливера». Спектакль. **12.30** Экспресс-кино. **12.45** «Морис Бежар. Парадоксы». **13.25** Еще одна Россия. **14.55** «Рандеву со звездой». **15.30,18.30, 21.00** Информ ТВ. **15.40** «За глаза». **16.05** Студия «Вообрази». **16.20** «Антре». **16.45** Мультфильм. **16.55** Страсти-мордасти. **17.10** «Не хочешь - не смотри». **17.40** Теле-граф. **17.55** Ничего, кроме... **18.10** Большой фестиваль. **18.55** Чемпионат России по футболу. **21.20** «Форт Саган». Х/ф. с. 1. **22.55** «Музыкальный рай».

### Польское телевидение

#### Программа 1

**08 00** Экологическая программа. **08 15** Из Польши. **08 30** Все об огороде. **08 55** Агролиния. **09 30** «Возвращение в будущее». Сериал пр-ва США. **09 55** Программа дня. **10 00** Новости. **10 10** «Зерно». Программа католической редакции. **10 35** Программа для детей и молодежи. **11 35** Концерт немецкого симфонического оркестра. **11 55** Что вы на это? **12 00** Индия. **12 50** Репортаж. **13 00** Новости. **13 10** Страна. **13 35** Телеконцерт пожеланий. **14 00** Животные мира. **14 30** Мультфильмы У. Диснея. **15 45** Концерт немецкого симфонического оркестра. **16 05** Семья - семье. **16 25** Тележурнал. **17 10** «Билл Гоусби шоу». Сериал пр-ва США. **17 35** Тележурнал. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 25** Телетурнир. **18 55** Тележурнал. **19 05** «День за днем». Сериал пр-ва США. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Война семьи Розе». Комедия пр-ва США. **23 10** Развлекательная программа. **23 25** Концерт немецкого симфонического оркестра. **00 00** Новости. **00 10** Спортивная суббота. **00 30** «Охотник за террористами». Фильм пр-ва Италии. **02 00** «Вечный муж». Фильм пр-ва СССР. **03 45** Музыкальная программа.

#### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Концерт. **08 30** Такие одинокие. **08 50** Уроки языка глухонемых. **09 00** Мультсериал. **09 25** Приветствие. **09 30** Местная программа. **10 30** Тележурнал. **11 00** Жизнь рядом с нами. **11 30** Портрет поляков. **12 00** Час с Ганной Берберой. **13 00** «Станцуешь со мной?». Фильм пр-ва США. **14 35** Фестиваль рекламы. **15 00** События недели. **15 35** Ребусы. **16 05** Телетурнир. **16 35** «Повесть о Швейке». Телепредставление. **17 05** Телетурнир. **18 00** Сериал пр-ва США. **18 55** Розыгрыш лото. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **19 30** Семь дней - мир. **20 05** Телетурнир. **20 35** Сумасшедшие цифры. **21 00** Документальный фильм. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 35** Слово на воскресенье. **22 40** Музыкальный журнал. **23 15** «Список прелюбодеек». Фильм пр-ва Польши. **00 20** Концерт. **01 05** Панорама. **01 10** Концерт.

### IV канал, НТВ

**7.00** Возвращение к Богу. **7.30** Мультфильмы. **7.55** «Пою для Вас...» **8.00** Анонс Семейного канала. **8.10** Детская площадка. **8.25** За и против. **9.00** В гостиной Семейного канала. **9.20** Домовладелец. **9.35** Нужные вещи. **9.55** Театр на столе. **10.10** Медицина дла Вас. **10.30** СИВ. **10.35** В гостиной Семейного канала. **11.00** Красиво шить не запретишь. **11.30** Научные субботы. **12.00** В гостиной Семейного канала. **12.20** Пенсион. **12.25** «В семейный блокнот». **12.50** Космическая телеантенна. **13.05** В гостиной Семейного канала. **13.30** СИВ. **13.35** «С полуслова». **13.50** Москва пассажирская. **14.00** «С полуслова». Полуфинал. **14.15** Автоледи. **15.00** СИВ. «Дом моды». **15.20** Театр одного художника. **15.40** СИВ. «Новости кино». **16.00** «Пригласительный билет» Г.Преображенской. **16.45** СИВ. **17.00** «Дог-шоу. Я и моя собака». **17.30** Вернисаж Ильи Резника: Азиза. **18.00** «Сегодня». **18.30** «Характеры». **19.10** «Крутой Уокер: Правосудие по-техасски». **20.00** Намедни. **20.45** Куклы. **21.00** «Сегодня». **21.35** «Джеймс Бонд — агент 007». Фильм «Операция «Шаровая молния». **23.50** Третий глаз. **0.50** «Плейбой».

## Нядзеля, 17 сакавіка

### Белорусское телевидение

**8.00** «Все о тебе». Ф/к. **8.35** «Конон». **9.00** Телебом. **9.55** О шахматах и шахматистах. **10.30** Лучшие хиты MTV. **11.00** «Зимний вечер в Гаграх». Х/ф. **12.25** «Вершина мира». Телеигра. **12.45** Туробъектив. **13.05** Все нормально, мама! **13.35** Студия «Окно». **13.55** Авто-парк. **14.10** «Дикий юг». **14.40** Победитель. **15.00** Бездельник. **15.30** Гости в дом. **15.40** «Вершина мира». Телеигра **16.00** Открытие Недели телевидения Молдовы. **17.55** Чемпионат Англии по футболу. Премьер-лига. В перерыве - Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Новости-ТВ. **21.05** Ток-шоу «Карамболь». **21.40** «Бум». Х/ф. **23.35** «Бархатный сезон».

### ОРТ

**6.50** Тираж «Спортлото» **7.00** Телеканал «Подъем!» **8.00** Новости **8.10** Телеканал «Подъем!» **9.25** Пока все дома **10.00** Утренняя звезда **10.50** Из первых рук **11.00** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** В городе N... **12.25** Под знаком «Пи» **12.55** Смехопанорама. **13.30** «Пираты» **14.00** Новости **14.20** Г.Свиридов. «Время, вперед!» **15.10** Клуб путешественников **15.55** Сюткин и Ко. **16.15** Мультфейерверк **17.00** Новости **17.20** «Ералаш» **17.55** Футбольное обозрение **18.35** Фильм «Обратная тяга» **20.55** Реклама **21.00** Воскресенье **21.45** Реклама **21.55** Программа передача **22.00** «Детективное агентство «Лунный свет». **22.55** Новости **23.05** Любовь с первого взгляда **23.40** «Время для размышлений». Т/ф

### Канал «Россия»

**7.00,13.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** «Что день грядущий...» **7.30** Теремок. **7.45** Первый дубль. **8.00** Мировая деревня. **8.30** В мире авто- и мотоспорта. **9.00** Доброе утро, Европа. **9.30** Аты-баты... **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Русское лото. **10.55** Торговый дом. **11.00** Клуб губернаторов. **11.30** «Тайна животных». **12.25** Клип-антракт. **12.30** Театр моей памяти. **13.20** Не вырубить... **13.35** «Эмили». Т/ф. **14.30** Книжная лавка. **15.00** Горячая десятка. **15.55** Футбол без границ. **16.35** «Миры Михаила Врубеля». Д/ф. **17.00** Волшебный мир Диснея. **17.55** Снимается кино... **18.00** Колесо истории. **19.25** «Горец-2». Х/ф **21.00** Прогноз погоды. **21.10** Телекросс. **21.25** У Ксюши. **22.30** Служба 299-00-00. **22.45** Река времени. **22.50** Автомиг. **22.55** Дневник фестиваля «Золотая маска». **23.10** Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

**8.00** Это ваш день. **8.30** Целительное слово. **9.00** Стиль жизни. **9.15** «Крик о помощи». Х/ф. Ч. 2. **10.25** Храм. **10.55** День рождения. **11.00** Музыкальный момент. **11.10** Россия. Выбор пути. **11.35** «Барабашка ТВ». Клоунада. **11.55** Поет Лада Дэнс. **12.25** «Кучка стариков». Х/ф. **13.55** Балет И.Стравинского «Жар-птица». **14.35** Детское ТВ. **15.40** Посмотрим. **15.55** Чемпионат Италии по футболу. **18.00** «Пой с нами». **18.30** Информ ТВ. **18.55** Телешансон. **19.25** Х/ф «Большой капкан, или Соло для кошки при полной луне». **21.00** Информ ТВ. **21.25** «Форт Саган». с. 2 **22.50** «Ноу смокинг».

### Польское телевидение

#### Программа 1

**08 00** Сельское хозяйство в мире. **08 15** Польские танцы. **08 35** Сельскохозяйственная программа. **09 05** Музыкальная программа. **09 35** «Дорога в Авонлеа». Сериал пр-ва Канады. **10 25** Телеутро. **10 50** Музыкальная программа для детей. **11 15** В старом кино. **13 00** Трансляция из Ватикана. **13 20** Публицистическая программа. **14 00** Новости. **14 10** Неделя. **14 40** Перец и ваниль. **15 15** «Север - Юг». Сериал пр-ва США. **16 10** Программа для родителей. **17 00** Сельские образы. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Стоит посмеяться. **18 50** Сатирическая программа. **19 10** «Доктор Квинн». Сериал пр-ва США. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Матери, жены, любовницы». Сериал пр-ва Польши. **22 10** Обычные - необычные. **23 05** Спортивное воскресенье. **23 25** Публицистическая программа. **23 50** Документальный фильм. **00 40** «Ликвидатор». Фильм пр-ва Канады. **02 20** Вокруг большой сцены.

#### Программа 2

**08 00** Эхо недели. **08 30** Фильм для глухих. **09 20** Слово на воскресенье. **09 30** Местная программа. **10 30** Приветствие. **10 35** Политический комментарий. **11 00** Отчизна. **11 15** Программа для детей. **12 15** Телетеатр для детей. **13 05** «Покажем им все». Фильм пр-ва СССР. **15 00** Спортивная студия. **16 00** Телетурнир. **16 25** Катехизм. **17 00** Тележурнал. **18 00** «Беверли Хилз». Сериал пр-ва США. **18 50** Вторая программа. **19 00** Местная программа. **19 10** Документальный фильм. **20 05** Телетурнир. **20 30** Мультсериал. **21 00** Час откровения. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 40** «Хоровод нахалов». Фильм пр-ва Франции. **00 20** Бестселлеры второй программы. **01 00** Панорама. **01 05** Звезды мирового джаза.

### IV канал, НТВ

**7.00** Прикосновение. **8.00** Анонс Семейного канала. **8.10** Детская площадка. **8.30** Встречи на Тверском. **9.00** В гостиной Семейного канала. **9.20** Вернисаж. **9.35** Удачный день. **9.40** Консилиум. **10.10** Полезные советы. **10.30** СИВ. **10.35** В гостиной Семейного канала. **11.00** «Мадо, до востребования». Х/ф. **12.40** Пенсион. **12.45** Юмориста вызывали? **13.00** Домашние питомцы. **13.20** Графоман. **13.30** СИВ. **13.35** «С полуслова». Финал. **13.50** В гостиной Семейного канала. **14.15** Декабрьские вечера-95. **14.55** «Валерий Харламов». Д/ф **15.20** «Бурда моден» предлагает... **15.50** Подъем переворотом. **16.20** В гостиной Семейного канала. **16.45** СИВ. **17.00** «Полицейский Кэттс и его собака». **17.30** «Сто к одному». **18.00** «Сегодня». **18.30** Музыкальная программа «Овация» **19.00** «Крутой Уокер: Правосудие по-техасски». **19.50** «Оба-на»: избранное. **20.00** Итоги. **21.10** Фильм В.Дзурлини «Пустыня Тартари» **23.45** Лучшие цирки мира.

---



# ФІНАЛ ГОП-КАМПАНІІ

Літаральна некалькі дзён таму супрацоўнікамі аператыўна-пошукавага аддзела пры УУС і Ленінскага РАУС у Горадні быў выкрыты разбойны гурт, які зьдзейсьніў некалькі нападаў на кватэры ў абласным цэнтры. Нагадаем, што ўвечары 23 лютага узброеныя злачынцы ўварваліся ў кватэру вадзіцеля аднаго з малых прадпрыемстваў па вуліцы Вялікая Траецкая. У хаце былі толькі дзеці, якія і адчынілі дзьверы невядомым. Пагражаючы нажом і зброяй, злачынцы скралі відэапаратуру, залатыя ўпрыгожваньні на буйную суму, грошы і зьбеглі. Застаецца толькі здагадвацца, што прыйшлося перанесьці дзецям-школьнікам, калі ў хаце арудавалі ўзброеныя падонкі.

Дзякуючы добра спланаваным аператыўным дзеяньням, праз чацьвёра сутак усю гоп-кампанію ўдалося затрымаць. Пераважна гэта былі юнцы 17-18 год, так хутка пасталеўшыя ў апошні час - некаторыя з іх ужо мелі судзімасьці. Ды і прадстаўлялі яны самыя розныя рэгёны нашай краіны: і Горадню, і Наваградак, І Шчучын, і Салігорск і нават Брэст. Як на тых алімпійскіх гульнях - ад кожнай краіны свой прадстаўнік. Што ж, гульня гульнёй, а за ўсё трэба плаціць. Дарэчы, «накрылі» рабаўнікоў у аўтамабіле, які яны пасьпелі набыць пасьля апошняга нападу. І зараз сьледчыя адпрацоўваюць версію аб дачыненьнях гэтага гурта да другіх разбойных нападаў у горадзе і раёне.

**Г.ХАЛЯНКОЎ.**

# АФАРЫЗМЫ АФІЦЭРАЎ САВЕЦКАЙ АРМІІ

Кароткімі перабежкамі ад мяне да наступнага дубу.

* * *

Боты трэба чысьціць звечара і зранку апранаць на сьвежую галаву.

* * *

Давесьці аб наяўнасьці людзей! Хто не ўсе - таго пакараем.

* * *

Што вы матам лаецеся, як маленькія дзеці.

* * *

Ты ў мяне глядзі! Я дзе нармальны, а дзе і бязьлітасны.

* * *

І не рабіце разумны выгляд, не забывайце, што вы - будучы афіцэр.

* * *

Руль служыць для павароту ўправа, улева і ў іншыя бакі.

* * *

Выступаем увечары, на світанку.

* * *

Спачатку пройдуць людзі, а потым паедзем мы.

* * *

Ядзерная бомба заўсёды трапляе ў эпіцэнтр.

* * *

Масты праз рэкі звычайна будуюцца поперак плыні.

* * *

(Высновы кіраўніцтва пасьля аўтаавaрыі, пры якой было паранена дзіця, якое выскачыла на праезджую частку): Трэба глядзець туды, адкуль дзеці зьяўляюцца.

* * *

Ніякага адбоя! У ложак - толькі праз мяне.

* * *

Зімою, дакладней, ноччу, каравул зьмяняецца два разы на дзень.

* * *

Ну я не разумею, як так можна піць! Ну выпіў адну, ну, другую, ну літр, ну два. Але навошта ж напівацца?

* * *

Ідзем мы неяк з сябрам па міннаму полю. То ён спераду, то я ззаду.

* * *

Асабліва сакрэтныя дакументы перад азнаямленьнем спаліць.

